ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 14 (2572)

9 красавіка 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 1500 рублёў.

*«МІС БЕЛАРУСЬ-98»*



**У Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь прайшоў першы нацыянальны конкурс "Міс Беларусь-98". У ім прынялі ўдзел 20 дзяўчат з усіх абласцей нашай рэспублікі. Усе яны — студэнткі першай Нацыянальнай школы прыгажосці, якая працуе ў дзяржаўным харэаграфічным каледжы.**

**НА ЗДЫМКУ: Святлана КРУК стала "Міс Беларусь-98". Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

РЭФОРМА ПЕНСІЙНАГА ЗАБЕСПЯЧЭННЯ

## СТАРАСЦЬ НЕ РАДАСЦЬ

**Вынікі эканамічных рэформ апошніх гадоў адбіліся, у першую чаргу, на ўзроўні жыцця больш чым 2,5 мільёна беларускіх пенсіянераў. Нядаўна распрацаваная рэформа пенсійнага забеспячэння заклікана дапамагчы выправіць гэтае становішча.**

Сёння праграмамі пенсійнага забеспячэння ахоплена каля 26 працэнтаў насельніцтва краіны. Акрамя таго, сістэма пенсійнага забеспячэння закранае жыццёва важныя інтарэсы таксама і тых, хто, удзельнічаючы ў яе фінансаванні, "зарабляе" сабе будучую пенсію.

Нягледзячы на ўзрастаючыя расходы на выплату пенсій з Фонду сацыяльнай абароны, стан пенсійнага забеспячэння ўяўляе сабой адну з найскладанейшых і найвастрэйшых сацыяльна-эканамічных праблем. Каля 80 працэнтаў страхавых узносаў, устаноўленых для пераважнай колькасці наймальнікаў на ўзроўні 35 працэнтаў фонду аплаты працы, накіроўваецца сёння непасрэдна на пенсійнае забеспячэнне. Аднак гэтых сродкаў, а таксама адлічэнняў працуючых у памеры аднаго працэнта заробатку яўна недастаткова для выплаты пенсій у памерах, якія б задавальнялі мінімальныя патрэбы пажылога чалавека, хаця ў рэспубліцы перыядычна павышаюцца памеры пенсій (у мінулым годзе — 8 разоў, у 1998 годзе — двойчы), пытанне аб узроўні пенсійнага забеспячэння па-ранейшаму застаецца праблемным.

Пенсійная сістэма ў Рэспубліцы Беларусь, як і ў большасці краін свету, дзейнічае на размеркавальнай аснове. Гэта азначае, што сабраныя страхавыя ўзносы, якія плацяць работадаўцы і грамадзяне, расходуюцца на выплату бягучых пенсій у даны адрэзак часу. У сваю чаргу, аб'ём бягучых страхавых паступленняў, якія накіроўваюцца на фінансаванне выплаты пенсій, залежыць, па-першае, ад узроўню заработнай платы занятых у эканоміцы, па-другое, ад колькасці занятых у эканоміцы і, па-трэцяе, ад тарыфу страхавых узносаў.

Менавіта нізкі ўзровень аплаты працы сёння працуючых непазбежна прыводзіць да такога ж нізкага ўзроўню пенсійнага забеспячэння, бо асноўным фактарам, які вызначае магчымасці фонду сацыяльнай абароны насельніцтва для фінансавання расходаў на выплату пенсій, з'яўляецца фонд заработнай платы прадпрыемстваў і іншых суб'ектаў гаспадарання.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

НА СКРЫЖАВАННІ ЛЁСАЎ

## ДАЛАН АБ БЕЛАРУСАХ

**Далан (адчайны, бесшабашны) — гэта псеўданім народнага пісьменніка Рэспублікі Саха (Якуціі) Васіля Якаўлева (1.IV-28—27.XI.96). Нарадзіўся ён у Чуранчынскім раёне Якуціі. Будучы студэнтам IV курса гістарычнага факультэта ЯДУ, 8 красавіка 1952 года быў арыштаваны органамі НКУС па так званай "справе Башарына". Пасля вызвалення з ГУЛАГа працаглы час працаваў чорнарабочым, а пазней галоўным рэдактарам часопіса "Чалбон". У 1979 годзе быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў СССР, ён лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Саха, абраны правадзейным сябрам Акадэміі духоўнасці Рэспублікі Саха, аўтар гістарычных раманаў "Глухі Вілюй" і "Тыгын Дархан", шэрагу аўтабіяграфічных твораў, дзе апісваў, між іншым, і свае сустрэчы з беларусамі, якія, пэўна, будуць цікавымі і беларускаму чытачу.**

### УНУТРАНАЯ ТУРМА

Унутраныя турмы — не агульныя турмы для зняволеных, а як бы дадатковыя — пэўна меліся ў кожным горадзе пры органах МДБ. Якуцк не быў выключэннем з правілаў. Гаварылі мне, што нібыта пасля смерці Сталіна і суда над Берыяй гэта турма па патрабаванню былых рэпрэсіраваных была спалена, а пажарышча знішчана бульдозерамі. Бог яго ведае. А можа, проста гаспадару ўнутранай турмы, які "захварэў" пры Хрушчове і які ўзначальваў усяго толькі аддзел Савета Міністраў, не па рангу было мець такія ўстановы. Зараз на гэтым месцы стаіць ці то склад, ці то гараж нейкага прадпрыемства...

Трэба было захаваць унутраную турму горада Якуцка, ператварыць яе ў музей, каб усе ведалі, дзе і хто сядзеў, пакутаваў, паміраў, як і хто катаваў, дапытваў, забіваў, каб яно не паўтарылася.

Не ведаю, калі была пабудавана ўнутраная турма. Гэтага нізкага непрыкметнага будынка не бачна было з-за высокага плота. Ён быццам стараўся як мага менш кідацца ў вочы, каб тыя, хто праходзіў міма, не маглі нават западозрыць, што за гэтымі сценамі робіцца нешта кепскае. Хаваўся ён у самым цэнтры горада, як страшная хвароба, якая спакваля раз'ядае арганізм і тоіцца да пары да часу. Нягледзячы на сваю вонкавую нязграбнасць, унутраная турма была на рэдкасць умяшчальнай. Камер было каля пяцідзесяці, але ў іх пакутавала мноства людзей. Акенцы былі забіты жалезнымі кратамі і аснашчаны звонку аканіцамі — "намордпікамі", каб зняволеныя не маглі бачыць, што адбываецца па той бок, у двары, на вуліцы. Доўгі калідор быў засцелены мяккай дарожкай, што з'ядала крокі наглядчыкаў, якія падкрадваліся да дзвярэй і заглядвалі ў "вочка". Галоўная задача тых, хто наглядаў, зводзілася да таго, каб не даваць спаць знясіленым ад бяссонніцы вязням. Неслухаў каралі карцарам. Нары ў камерах былі пазбіваны намёртва, каб іх нельга было зламаць, і папрыкручваны да сцэнаў. Дзверы абабіты жалезам. Праз "кармушку" падавалі суп з фасолі, прасную кашу, чорны хлеб. У турме дазвалялі размаўляць толькі шэптам. У ёй усё прыгнятала чалавечы дух.

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

*АНДРЭЙ ТАКІНДАНГ – ПАЭТ, МАСТАК І ШЧЫРЫ ЧАЛАВЕК*

## БЕЗ ШЧАСЦЯ ЖЫЦЦЯ НЯМА

Андрэй Такіндант — Асоба, хаця мае толькі 15 гадоў ад нараджэння. Ён паэт і мастак, і не толькі таму што мае здольнасці да паэзіі і малявання. У яго ёсць свой погляд на свет, на жыццё і ўласнае стаўленне да таго, што наўкола.

**Такое шчасце — жыццё-калеча.**
**Але без шчасця жыцця няма.**
**Вялікі розум — гэта добра.**
**А лепш яшчэ й вялікая душа.**

Маці Андрэя — беларуска, бацька — афрыканец. У захапленні ад таленавітага хлопчыка "Настаўніцкая газета" пісала, што Андрэй — грамадзянін Беларусі па сваім светапоглядзе, мове, адданасці, грамадзянін па спадчыне, якую адчуў той кропелькай крэўнасці, што ўвабрала афрыканскі агонь і славянскую задуменнасць.

Андрэй вучыцца ў Мастацкім ліцэі імя Ахрэмчыка. У яго там многа сяброў, пра якіх ён адгукаецца

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**



ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ЮБІЛЕЙ

## ПРАДСТАЎЛЯЦЬ БЕЛАРУСЬ У СВЕЦЕ

Сорак гадоў таму, 28 сакавіка 1958 года, пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый было заснавана Пастаяннае прадстаўніцтва Беларусі. БССР стаяла ля вытокаў стварэння ААН. Падпісаўшы разам з пяцідзесяцю іншымі дзяржавамі свету Статут гэтай міжнароднай арганізацыі, яна стала адным з першых яе членаў.

За чатыры мінулыя дзесяцігоддзі Беларусь стала членам шэрагу спецыялізаваных устаноў ААН: ЮНЕСКА, Міжнароднай арганізацыі працы, Сусветнага паштовага саюза, Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, Міжнароднага валютнага фонду і іншых. Дэлегацыі нашай краіны прымалі актыўны ўдзел у рабоце пяцідзесяці дзвюх сесій Генеральнай Асамблеі ААН і многіх розных міжнародных канферэнцый і нарад.

Цяпер беларускае прадстаўніцтва пры ААН галоўным у сваёй рабоце лічыць развіццё найважнейшых ініцыятыў, якія адлюстроўваюць нацыянальныя інтарэсы рэспублікі, і замацаванне іх у афіцыйных дакументах і рашэннях ААН.

НАМ РЭКАМЕНДУЮЦЬ

## ВІЗІТ ПРЭЗІДЭНТА ІКАО

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка 31 сакавіка сустрэўся з прэзідэнтам Савета Міжнароднай арганізацыі грамадзянскай авіяцыі (ІКАО) Асадам Катайтам. Кіраўнік нашай дзяржавы адзначыў, што поўнасцю падтрымлівае дамоўленасці, дасягнутыя ў працэсе перагавораў пана Катайта з беларускім урадам і кіраўніцтвам Дзяржаўнага камітэта па авіяцыі, а таксама прапанову аб уваходжанні Беларусі ў Савет ІКАО.

"Я разглядаю ваш візіт як фактар умацавання і павышэння аўтарытэту нашай грамадзянскай авіяцыі. Беларусь актыўна супрацоўнічае з ІКАО, і мы будзем рабіць усё, каб гэта супрацоўніцтва было эфектыўным", — адзначыў Аляксандр Лукашэнка. Міжнародная арганізацыя грамадзянскай авіяцыі з'яўляецца спецыялізаваным агенцтвам ААН і займаецца ў асноўным разглядам праблем, звязаных з бяспекай палётаў. Ёю ўстаноўлены стандарты бяспекі, строга прытрымлівацца якіх абавязалася і наша краіна.

Як паведаміў журналістам пан Асад Катайт, у ходзе гутаркі кіраўнік беларускай дзяржавы запэўніў яго ў тым, што прыме ўсе неабходныя меры для ўкаранення новых навігацыйных тэхналогій, рэкамендаваных ІКАО. Размова ідзе аб выкарыстанні спадарожнікавых сістэм для кіравання паветраным транспартным патокам. Пры гэтым пілотам не трэба звязвацца з зямлёй для атрымання ўказанняў ад дыспетчараў, бо ўсю неабходную інфармацыю ў палёце яны атрымліваюць са спадарожніка на ўстаноўленым на борце самалёта камп'ютэр.

НАВАСЁЛЫ «АМЕРЫКАНСКАГА» ДОМА



У прыгранічным Гродне заселены "амерыканскі" жылы дом, які прызначаны для сямей расійскіх ваеннаслужачых, што пажадалі застацца жыць у Беларусі. Раней яны служылі ў ракетных войсках стратэгічнага прызначэння, а пасля іх вываду ў Расію альбо прадоўжылі службу ў беларускай арміі, альбо сталі працаваць на грамадзянскіх прадпрыемствах.

Звыш 50 сямей атрымалі кватэры ў гэтым доме, астатнія прадастаўлены афіцэрам і прапаршчыкам мясцовага гарнізона.

За сродкі замежных дзяржаў сіламі мясцовых і замежных будаўнікоў на Гродзеншчыне пабудавана таксама тры буйныя жылыя гарадкі з інфраструктурай, прызначаныя для сямей былых савецкіх ваеннаслужачых, выведзеных з Германіі. Размешчаны яны ў Слоніме, Лідзе і гарадскім пасёлку Рось Ваўкавыскага раёна.

НА ЗДЫМКУ: новы дом для ваеннаслужачых у Гродне.

ГРАМАДСКАЯ ДУМКА

## ВАША СТАЎЛЕННЕ ДА БНР

Інстытут сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 25 сакавіка правёў аператыўнае апытанне 500 жыхароў горада Мінска на тэму: "Вашы адносіны да 80-й гадавіны стварэння БНР". Вось некаторыя даныя гэтага апытання.

На пытанне: "Ці ведаеце вы пра тое, што ў 1918 годзе нейкі час існавала Беларуская Народная Рэспубліка!", "так" — адказалі 74 працэнты апытаных, "не" — 26 працэнтаў. На пытанне: "Ці лічыце вы стварэнне БНР значнай вяхой у развіцці беларускай дзяржаўнасці?", станоўча адказалі 28 працэнтаў апытаных, адмоўна — 41 працэнт, не змаглі адказаць — 31 працэнт.

"Як, на вашу думку, павінна дзяржава адносіцца да гэтай падзеі?" Аўтарамі апытання былі прапанаваны чатыры варыянты адказу: "замоўчваць" параілі 8 працэнтаў апытаных, "паставіцца нейтральна" — 28 працэнтаў, "аднесціся станоўча" — 32 працэнты, "падтрымаць на дзяржаўным узроўні" — 12 працэнтаў, не змаглі адказаць — 20 працэнтаў.

Даныя праведзенага апытання, у параўнанні з папярэднімі, сведчаць аб тым, што ідэя беларускай дзяржаўнасці знаходзіць усё больш шырокую падтрымку сярод насельніцтва Мінска. У той жа час можна гаварыць, што адносіны мінчан да факту ўтварэння ў 1918 годзе БНР нейтральныя з элементамі станоўчага. Значыць, насельніцтва дапускае магчымасць выкарыстання гэтай даты органамі ўлады ў інтарэсах сучаснай беларускай дзяржавы.

МАЗЫРСКІ ДЗІЦЯЧЫ ДОМ



У Мазырскім дзіцячым доме раней жылі дзеткі з парушэннем слыху і мовы. У апошнія гады з павелічэннем дзяцей-сірот пры жывых бацьках тут знаходзяць дом сотні дзяцей з усёй Гомельскай вобласці. Па-мацярынску ставяцца да іх выхавальніцы. Адна з іх Вера Чайкоўская, якая ўсю сябе аддае гэтым абяздоленым дзецям.

НА ЗДЫМКУ: «Мама, адгадай!»

*"У нашага Саюза яшчэ няма ла праблем і цяжкасцяў. Але цяпер мы можам з поўнай адказнасцю сказаць: "Саюз Беларусі і Расіі адбыўся!"*

*Пабудаваны на непахісных прынцыпах узаемнай павагі і роўнасці, ён нясе нашым народам канкрэтныя дабротны не ў перспектыве, а ўжо сёння.*

*І ў Расіі, і ў Беларусі людзі адчулі несумненную карысць узгодненай эканамічнай палітыкі, супрацоўніцтва, якое набірае сілу на рэгіянальным узроўні.*

*Забеспячэнне расійскім і беларускім грамадзянам роўных правоў і магчымасцяў, у тым ліку ў такіх важных галінах, як працаўладкаванне, аплата працы, ахова здароўя і адукацыя; стварэнне адзінай нарматыўна-прававой базы; актывізацыя двухбаковых гуманітарных, навукова-тэхнічных і інфармацыйных сувязяў — вось далёка не поўны пералік таго, што ўжо рэальна прынёс Саюз расійскаму і беларускаму народам. А патэнцыял нашага аб'яднання знаходзіцца толькі ў пачатковай стадыі сваёй рэалізацыі!*

*Саюз Беларусі і Расіі з самага пачатку нікому не пагражаў. Не пагражае і цяпер. Мы за роўнасць і справядлівы ўлік інтарэсаў усіх краін і народаў і не прымаем сілавых метадаў вырашэння міжнародных праблем. Ніколі не згодзімся мы з ушчамленнем правоў нашых суайчыннікаў у іншых краінах. Гэта недапушчальна на парозе трэцяга тысячагоддзя".*

*(Са звароту старшыні Вышэйшага Савета Саюза Беларусі і Расіі, Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКІ да народаў дзяржаў — удзельніц Саюза Беларусі і Расіі).*

ПАМЯЦЬ

## ВЯРТАННЕ З НЕБЫЦЦЯ

У Мінску адбылася рэспубліканская канферэнцыя па ўвекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр вайны.

Дзве сусветныя вайны ў гэтым стагоддзі пракаціліся па тэрыторыі Беларусі. Ад апошняй засталося больш чатырох тысяч пахаванняў, у якіх знаходзіцца амаль 1 мільён 300 тысяч чалавек. Але, як заўважыў у сваім выступленні на канферэнцыі намеснік міністра абароны генерал-лейтэнант Міхаіл Казлоў, імёны толькі пятай часткі з іх вядомыя.

У Беларусі вядзецца вялікая пошукавая работа. Мы супрацоўнічаем з архівамі Расіі, Германіі. Нядаўна з Германіі было перададзена некалькі дзесяткаў тамоў спісаў савецкіх людзей, якія загінулі ў час вайны на нямецкай тэрыторыі. Гэта дазволіць вярнуць з небыцця імёны звыш 360 тысяч чалавек.

УЗЫХОДЖАННЕ

## НА ШЛЯХУ ДА ВЯРШЫНІ СВЕТУ

Беларускі флаг устаноўлены на вяршыні Эльбруса. Гэта ўзыходжанне — усяго толькі трэніровачны этап нашых альпіністаў перад планаваным першым у гісторыі сумеснай кітайска-беларускай экспедыцыяй на самую высокую вяршыню свету — Джамалунгму. Мяркуемае ўзыходжанне будзе прымеркавана да 55-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 50-годдзя ўтварэння Кітайскай Народнай Рэспублікі. Намечана яно на сакавік 1999 года.

САДРУЖНАСЦЬ

## БЕЛАРУСКА-КІТАЙСКІ АЎТАМАБІЛЬ

Урачыстае адкрыццё сумеснага беларуска-кітайскага прадпрыемства "Волат" — "Саньцзян" адбылося ў адміністрацыйным цэнтры Ухань Кітайскай Народнай Рэспублікі. Як паведаміў генеральны дырэктар Мінскага завода колавых цягачоў Аляксандр Волкаў, сумесна з кітайскай кампаніяй у бліжэйшы час разгорнецца выпуск спецыяльных аўтамабіляў грузападымальнасцю 50 тон, прызначаных для работы ў цяжкапраходных раёнах нафта- і газапромыслаў. Беларускі бок будзе пастаўляць на зборку каля 25 працэнтаў ад агульнага аб'ёму камплектуючых. Сумесная вытворчасць разлічана на выпуск 300 аўтамабіляў у год.

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

2 КРАСАВІКА — свята: Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі. У Маскве ў мерапрыемствах, прысвечаных Дню яднання, прыняла ўдзел беларуская дэлегацыя на чале з віцэ-прэм'ерам Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Замяталіным.

МІНСКІ гарвыканкам не даў дазвол на правядзенне масавай акцыі з нагоды 2 красавіка — Дня яднання народаў Беларусі і Расіі. Ініцыятарамі акцыі выступілі Беларускі народны фронт і Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная грамада).

АМАЛЬ 600 абразоў і іншых культурных каштоўнасцей, украдзеных у Беларусі, пакуль знаходзяцца ў вышуку. Супрацоўнікі крымінальнага вышуку не трацяць надзеі многія з іх знайсці. І самі, і з дапамогай сваіх замежных калег.

МІНІСТЭРСТВА прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі выдала загад: забараніць з 15 сакавіка да 15 ліпеня 1998 года лоўлю, прамысловую і аматарскую, рака даўгапалага на рыбагаспадарчых вадаёмах рэспублікі. Робіцца гэта дзеля захавання папуляцыі рака.

БЕЛАРУСКАЯ экалагічная партыя аб'явіла аб самароспуску з 1 лістапада гэтага года. Яна мае намер зліцца з Беларускай партыяй зялёных. І тады мы атрымаем Беларускую экалагічную партыю зялёных.

ПАЛІТВЫКАНКОМ Аграрнай партыі заявіў, што не прымае пазіцый былога свайго лідэра Сямёна Шарэцкага, і выказаўся за пазбаўленне яго паўнамоцтваў прадстаўляць партыю ў якіх-небудзь структурах. Палітвыканком лічыць, што цяперашні курс кіраўніцтва Беларусі супадае з праграмнымі ўстаноўкамі Аграрнай партыі па ключавых праблемах.

ЗАЛАТОГА, двух сярэбраных і трох бронзавых медалёў удастоена прадукцыя размешчанага ў Магілёўскім раёне завода "Вяйнянская крыніца" на міжнароднай выставе "Піўны аўкцыён-98" у Санкт-Пецярбургу. Строгая экспертная камісія прысудзіла прэстыжныя ўзнагароды адпаведна безалкагольным напіткам "Зялёны яблык", "Шыпшына", "Апельсін", "Тонік", "Кола-вішня" і "Кола-дыня".

ВУЧОНЫ савет Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка прысудзіў званне ганаровага доктара Вальтэру Віту, дырэктару Інстытута славістыкі Патсдамскага універсітэта Германіі. Такі гонар замежнаму вучонаму аказаны за падрыхтоўку спецыялістаў вышэйшай філалагічнай кваліфікацыі і вялікую навукова-педагагічную працу.



Другі па ліку крыты харчовы рынак адкрыўся ў Віцебску. Размясціўся ён у адным з новых густанаселеных мікрараёнаў абласнога цэнтра. У гандлёвай зале, якая займае звыш 1 000 квадратных метраў, ёсць усё: мяса і птушка, рыба і гародніна, малако і фрукты.

ЁСЦЬ ПРАПАНОВЫ

## ДЗЕ БЫЦЬ «НУЛЯВОМУ КІЛАМЕТРУ»?

Цалкам магчыма, што ў Мінску хутка з'явіцца яшчэ адна своеасаблівая выдатная мясціна. Рэспубліка Беларусь, як і многія дзяржавы, што паважаюць сябе, таксама павінна мець свой "нулявы кіламетр" — пункт адліку даўжыні дарог, як кажуць, ва ўсе бакі свету.

Да такой высновы прыйшлі спецыялісты Камітэта аўтамабільных дарог Міністэрства транспарту і камунікацый. Пакуль жа, чыста ўмоўна, прынята лічыць пачаткам дарог у нашай рэспубліцы сталічны Галоўпаштамт.

Што датычыць увядзення новага пункта адліку кіламетражу, то плануецца, што гэта павінна быць спецыяльна аформленая пліта, уманцаваная ў дарожнае пакрыццё недзе на самым відным месцы. Пакуль гэта рашэнне яшчэ канчаткова не зацверджана, але ёсць прапановы зрабіць такім знамянальным цэнтрам, напрыклад, Кастрычніцкую плошчу. Тым больш, што на ёй размешчаны Палац рэспублікі, а насупраць — рэзідэнцыя кіраўніка дзяржавы.







За 400 прывезеных з Бабруйска цаглін памешчык К. Паплеўскі, які пачаў будаўніцтва асабняка ў маляўнічым мястэчку Чырвоны Бераг, гаворaць, плаціў сялянам па 5 капеек. І жадаючых зарабіць (за некалькі ездак можна было купіць карову) хапала з лішкам. Вапна для кладкі гасілася папярэдне ў спецыяльнай яме цэлы год. Туды для паляпшэння яе якасці дабаўляліся курыныя яйкі, скідваліся трупы жывёлін. Таму, мусіць, і атрымаўся помнік архітэктуры — двухпавярховы асабняк з 36 пакояў, аздабленне якіх не паўтараецца. У будынку размяшчалася і невялікая царква. Скончана была будоўля ў 1893 годзе.

Будынак не пацярпеў у час вайны, таму што ў ім размяшчаліся шпіталі — чырвонаармейскі, а потым і нямецкі. Але больш за ўсё ён вядомы тым, што тут ужо 75 год размяшчаецца Чырвонабярэжскі саўгас-тэхнікум.

НА ЗДЫМКАХ: помнік архітэктуры Беларусі — асабняк К. Паплеўскага ў Чырвоным Беразе (Жлобінскі раён), у якім знаходзіцца саўгас-тэхнікум; студэнты арганізавалі ў будынку музей. Цяперашнія выпускніцы тэхнікума Святлана ЯКУШЭНКА і Вольга СОДАЛЬ рыхтуюць экспазіцыю для агляду.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

# СТАРАСЦЬ НЕ РАДАСЦЬ

**(Заканчэнне**
**Пачатак на 1-й стар.).**

Акрамя таго, узмацняецца працэс ухілення ад уплаты як падаткаў, так і страхавых узносаў. Расце запазычанасць прадпрыемстваў і арганізацый па ўплаце страхавых узносаў.

У сувязі з рэструктурызацыяй эканомікі колькасць працуючых за перыяд з 1990 года знізілася на 15,3 працэнта. За гэты ж перыяд колькасць пенсіянераў павялічылася на 12,4 працэнта. У выніку суадносіны паміж тымі, хто працуе, атрымлівае заработную плату і робіць страхавыя адлічэнні на выплату пенсій сённяшнім пенсіянерам, і атрымальнікамі пенсій знізілася да ўзроўню, калі на 160 працуючых прыпадае 100 пенсіянераў.

Суадносіны паміж працуючымі і сацыяльнымі ўтрыманцамі становяцца больш крытычнымі. Такі груз непасільны нават для багатых дзяржаў з высокім узроўнем даходу, дзе суадносіны працуючых і пенсіянераў значна вышэйшыя. Калі гаварыць аб утрыманцкай нагрузцы ўвогуле, то, па самых сціплых падліках, на 1 000 занятых у эканоміцы прыпадае больш за тысячу пенсіянераў, дзяцей, беспрацоўных, студэнтаў, жанчын, якія знаходзяцца ў адпачынку па догляду дзіцяці, і іншых сацыяльных утрыманцаў.

Праблемы сацыяльнага забеспячэння пажылых абвастраюцца нават з цягам часу. Асноўнай тэндэнцыяй фарміравання ўзроставай структуры насельніцтва рэспублікі з'яўляецца старэнне насельніцтва. Так, колькасць людзей, старэйшых за працаздольны ўзрост (60 гадоў для мужчын і 55 год для жанчын) за перыяд з 1959 года павялічылася ўдвая: з 1 090,3 тысячы да 2 175,9 тысячы чалавек. Пры гэтым колькасць асоб, старэйшых за 65 гадоў, павялічылася ў 2,2 раза. У той жа час насельніцтва ў працаздольным узросце павялічылася менш чым на трэць, а колькасць дзяцей зменшылася на 8,2 працэнта.

Згодна з прагнозам, развіццё дэмаграфічнай сітуацыі ў Беларусі да 2016 года будзе захоўваць негатыўны характар. Змяншэнне абсалютнай колькасці насельніцтва да 9 513,6 мільёна чалавек (на 7,1 працэнта) будзе суправаджацца павелічэннем долі асоб, старэйшых за працаздольны узрост (да 23,4 працэнта) і дэмаграфічнай нагрузкі да 395 пажылых на 1 000 чалавек працаздольнага ўзросту.

Такім чынам, гаворачы аб эканамічных прычынах крызісу пенсійнай сістэмы, трэба адзначыць, што яна яўна не адпавядае сённяшнім магчымасцям грамадства і ў той жа час не можа выканаць сваё прызначэнне — забяспечыць дастойны ўзровень пенсійнага забеспячэння. Змяншэнне актыўнага насельніцтва на фоне хуткага росту колькасці пенсіянераў непазбежна цягне за сабой зніжэнне ўзроўню жыцця не толькі пенсіянераў, але і працуючых, бо расходы, што павялічваюцца на пенсійнае забеспячэнне, непазбежна цягнуць за сабой павелічэнне адлічэнняў на пенсійнае забеспячэнне. Адным з шляхоў выхаду з крызісу з'яўляецца змяненне схемы пераразмеркавання наяўных сродкаў унутры самой пенсійнай сістэмы пры дапамозе аптымізацыі і рацыяналізацыі ўмоў і норм прадастаўлення пенсійнага забеспячэння. Менавіта ў гэтым і заключаецца галоўная мэта рэформы сістэмы пенсійнага забеспячэння ў Рэспубліцы Беларусь, канцэпцыя якой адобрана пастановай Савета Міністраў ад 17 красавіка 1997 года.

Узважыўшы ўсе плюсы і мінусы існуючых у свеце мадэлей пенсійнага забеспячэння, распрацоўшчыкі рэформы палічылі, што пенсійная сістэма ў Рэспубліцы Беларусь павінна развівацца па шляху далейшага фарміравання дзяржаўнай сістэмы пенсійнага страхавання.

Прынцыпова важным з'яўляецца тое, што канцэпцыя прадугледжвае не разбурэнне, а захаванне, умацаванне і развіццё дзеючай сістэмы пенсійнага забеспячэння. Коратка можна вылучыць наступныя асноўныя прынцыпы пенсійнай рэформы:



**Нарадзілася Вольга АНДРАЮК у 1904 годзе. У дваццаць восем страціла на вайне мужа, ды і саму разам з сынам немцы расстрэльвалі. Сын загінуў, а яна цудам выратавалася. Пасля вайны гадавала траіх дзяцей, сама працавала ў калгасе. Цяпер на пенсіі, жыве з сынам Сцяпанам у вёсцы Залуззе Жабінкаўскага раёна, сама яшчэ ўпраўляецца з хатняй гаспадаркай.**

усеагульнасць: грамадзяне незалежна ад сацыяльнага становішча, расавай прыналежнасці і грамадзянства, полу, мовы і роду заняткаў карыстаюцца правам на пенсійнае забеспячэнне;

абавязковасць: працуючыя па найму падлягаюць абавязковаму сацыяльнаму страхаванню, уключаючы пенсійнае;

роўнасць у правах: кожны застрахаваны мае права на пенсійныя выплаты з дзяржаўнага фонду сацыяльнага страхавання ў выпадках і пры выкананні ўмоў, устаноўленых заканадаўствам. Прытым асобы, што падлягаюць абавязковаму дзяржаўнаму страхаванню, і асобы, якія індывідульна плацяць страхавыя ўзносы, карыстаюцца аднолькавым правам на пенсійнае забеспячэнне;

устанаўленне залежнасці пенсіі ад страхавога стажу і заработку: памер працоўнай (страхавой) пенсіі ўвязваецца з працягласцю страхавання і заработкам, з якога ўплачваліся страхавыя ўзносы;

сацыяльная салідарнасць: салідарнасць пакаленняў, рэгіёнаў, галін, высоказабяспечаных і малазабяспечаных;

адказнасць бюджэту за пенсійнае забеспячэнне асоб, якія не ўдзельнічалі ў сістэме пенсійнага страхавання;

адказнасць дзяржавы за стан і развіццё дзяржаўнай пенсійнай сістэмы.

Зыходзячы з неабходнасці станаўлення новых форм у сферы пенсійнага забеспячэння, прапаноўваецца перайсці на працягу доўгага перыяду часу ад цяперашняй аднаўзроўневай пенсійнай сістэмы да адпаведнай шматузроўневай сістэмы, заснаванай як на размеркавальных прынцыпах (дзяржаўны ўзровень), так і накапляльных прынцыпах (недзяржаўны, прыватны, узровень).

У пенсійнай сістэме будзе тры састаўляючыя.

Першы ўзровень — пенсійнае забеспячэнне на дзяржаўнай аснове (сацыяльныя пенсіі), што мае сваёй мэтай абмежаванне беднасці. У будучыні права на атрыманне сацыяльнай пенсіі павінна прадастаўляцца за кошт агульных падаткаў у якасці мінімальнай дзяржаўнай падтрымкі ўсім непрацуючым непрацаздольным грамадзянам незалежна ад наяўнасці ў іх працоўнага (страхавога) стажу. Памер пенсіі неабходна ўвязаць з бюджэтам пражытачнага мінімуму пенсіянера, ступенню страты ім працаздольнасці.

Другі ўзровень — абавязковае пенсійнае страхаванне (страхавыя пенсіі). Права на працоўную (страхавую) пенсію, умовы пенсійнага забеспячэння і яго нормы павінны ўвязвацца з працягласцю ўплаты і аб'ёмам страхавых узносаў. У лік асоб, якія маюць права на працоўную пенсію, павінны ўвайсці ўсе працуючыя па найму, а таксама іншыя грамадзяне, ахопленыя сістэмай дзяржаўнага пенсійнага страхавання.

Мінімальны памер працоўнай (страхавой) пенсіі павінен увязвацца з бюджэтам пражытачнага мінімуму пенсіянера, а ў перспектыве — з мінімальным спажывецкім бюджэтам пенсіянера. Што тычыцца максімальнай пенсіі, то яе памер будзе вызначацца з улікам эканамічных магчымасцей пенсійнага фонду і, што зусім магчыма, шляхам устанаўлення гранічнага заработку, з якога бяруцца страхавыя ўзносы і на падставе якога затым вылічваюцца пенсіі.

Трэці ўзровень — дадатковае недзяржаўнае пенсійнае забеспячэнне (прафесійныя пенсіі).

Вядучая роля ў арганізацыі пенсійнай сістэмы адводзіцца дзяржаўнаму абавязковаму пенсійнаму страхаванню. Варта сказаць, што праблему вызначэння ўзроставых крытэрыяў выхаду на пенсію неабходна вырашаць не толькі з улікам негатыўных тэндэнцый дэмаграфічнага развіцця грамадства. Праблему вызначэння ўзроставых крытэрыяў неабходна вырашаць таксама і з улікам эканамічнага росту і працэсаў, што адбываюцца на рынку працы.

Напрыклад, неабходна ўлічваць той факт, што пажылыя работнікі і беспрацоўная моладзь з'яўляюцца патэнцыяльнымі канкурэнтамі на рабочыя месцы. Пры гэтым маладыя маюць яўную перавагу. Пры захаванні ў беспрацоўных пажылых права на датэрміновы выхад на пенсію ў выпадку працяглага беспрацоўя рэальная эканомія расходаў на пенсійнае забеспячэнне можа аказацца значна меншай за чакаемую. Акрамя таго, з павышэннем пенсійнага ўзросту абавязкова павялічваецца колькасць інвалідаў. Гэта таксама цягне за сабой дадатковыя расходы ў сувязі з выплатай пенсій па інваліднасці. Таму ў сённяшніх умовах з улікам сацыяльна-палітычнага становішча адначасовае павышэнне пенсійнага ўзросту ўяўляецца неапраўданым, у той час як ідэя гібкага пенсійнага ўзросту цалкам сябе апраўдвае ў многіх дзяржавах.

У Канцэпцыі ўсяго толькі пазначана праблема выплаты пенсіі ў перыяд работы. Існуючы на сённяшні дзень парадак, пры якім можна працаваць і атрымліваць пенсію, супярэчыць не толькі прынцыпам страхавання, але і зьмененым умовам рынку працы, які характарызуецца наяўнасцю беспрацоўя. Аднак з улікам узроўню пенсійнага забеспячэння пытанне аб прыпыненні выплаты пенсій працуючым пенсіянерам уяўляецца вельмі спрэчным. Даводзіцца канстатаваць, што пенсія ўсё менш адпавядае сацыяльным патрэбам пажылых людзей і ўсё больш выконвае ролю падтрымання іх мінімальнага жыццёвага ўзроўню. У большасці выпадкаў менавіта гэта прымушае людзей сталага ўзросту працаваць нават пасля выхаду на пенсію, выконваючы пры гэтым, як правіла, нізкакваліфікацыйныя работы.

Таму нягледзячы на тое, што ў рэспубліцы на выплату пенсій працуючым пенсіянерам расходуецца значная частка сродкаў (каля 15 працэнтаў расходаў на выплату пенсій), якія маглі б быць выкарыстаны на павышэнне пенсій тым, хто ўжо не ў стане працаваць, пераглядаць нормы аб выплаце пенсій працуючым пенсіянерам, асабліва тым, хто дасягнуў агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту і мае невысокі даход, заўчасна.

Неабходна таксама змяніць сам механізм вылічэння пенсій. Новы механізм павінен наблізіцца да патрабаванняў, якія вынікаюць з прынцыпаў страхавання. У Канцэпцыі прызнаецца мэтазгодным перайсці да вылічэння пенсій з заработку за ўвесь перыяд страхавання для адлюстравання найбольш аб'ектыўнай карціны ўкладу чалавека ў пенсійную сістэму.

Надзвычай важным з'яўляецца пытанне аб індэксацыі пенсіі ў сувязі з ростам цэн на спажывецкія тавары і паслугі. У Канцэпцыі прапаноўваецца захаваць прынцып залежнасці росту пенсіі ад росту заработнай платы працуючых, што выступаюць донарамі для пенсійнай сістэмы, шляхам прымянення індывідуальнага каэфіцыента заработку пенсіянера.

Вельмі важным уяўляецца перавод пенсійнага страхавання ў страхаванне вытворчых рызык. Зараз Міністэрствам працы падрыхтаваны праект Закона "Аб абавязковым сацыяльным страхаванні ад няшчасных выпадкаў на вытворчасці і прафесіянальных захворванняў". Не варта забываць і аб арганізацыі і развіцці прафесійнага пенсійнага страхавання, што ахоплівае работнікаў асобных прафесій ці галін.

Сістэма датэрміновых пенсій, якая сёння выступае ў якасці скрытай кампенсацыі заніжанага ўзроўню заработнай платы, не знімаецца, але ў будучыні пенсійнае забеспячэнне работнікаў з асобымі ўмовамі працы плануецца паступова перанесці ў галіновыя ці прафесійныя пенсійныя фонды, вызваліўшы тым самым дзяржаўны пенсійны фонд ад "ільготнікаў".

Гаворачы аб тэрмінах рэформы пенсійнага забеспячэння, хацелася б адзначыць, што па ўмовах працы яна можа быць ажыццёўлена на працягу 15—20 гадоў.

Другі напрамак магчымага развіцця дадатковага пенсійнага забеспячэння, — добраахвотнае пенсійнае страхаванне, абумоўленае высокай ступенню дыферэнцыяцыі даходаў насельніцтва.

Што ж тычыцца агульнай сістэмы пенсійнага страхавання, яна будзе будавацца на размеркавальных прынцыпах, гэта значыць пенсіі будуць забяспечвацца бягучымі страхавымі ўзносамі. Зусім відавочна, што нягледзячы на спакусу атрымаць дадатковыя інвестыцыйныя рэзервы, у цяперашніх умовах рызыка занадта вялікая, каб пераводзіць усю будучую пенсійную сістэму на накапляльныя прынцыпы.

Маштабнасць рэформы сістэмы пенсійнага забеспячэння на прынцыпах страхавання, як і ў цэлым рэфармавання дзяржаўнага сацыяльнага страхавання, патрабуе падрыхтоўкі збору адпаведных прававых актаў.

У той жа час неэфектыўнае заканадаўства — гэта не толькі памылкі ў асобных заканадаўчых актах, але і звязаныя з імі вынікі для прававой асновы ў цэлым.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## ДОБРЫ ПРЫКЛАД УСІМ

# «СИБИРЯК — ЗНАЧИТ БЕЛОРУС»

"Сибиряк — значит белорус". Пад такой выразнай назваю апублікавала газета "Новая Сибирь" ад 24.10.97 артыкул пра беларускае свята ў Новасібірску. І ў гэтым ёсць доля праўды. Ад самага пачатку асваення Сібіры да нашых дзён выхадцы з беларускіх зямель складалі адну з найбольш значных плыняў, што засялялі суровыя абшары гэтага краю.

Уладзімір Галуза, кіраўнік беларускай суполкі ў Новасібірску, у сваёй навуковай публікацыі "Беларусы Сібіры: гісторыя і сучаснасць" згадвае Румянцаўскі летапіс, які распавядае аб тым, што ў паходзе Ярмака прымалі ўдзел да 300 чалавек з "літвы", як тады называлі жыхароў Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) — сярэднявечнай беларускай дзяржавы. Ёсць звесткі, што з "літвы" паходзілі і бліжэйшыя спадзвіжнікі Ярмака: Мікіта Пан і Чэркас Аляксандраў (Корсак). Выхадцы з ВКЛ прымалі актыўны ўдзел у заснаванні буйных сібірскіх гарадоў — Цюмені, Табольска, Сургута, Тары і інш.

Масавае перасяленне ў Сібір жыхароў ВКЛ адзначаецца ў XVI і XVII стагоддзях. Напачатку гэта былі ваеннапалонныя, якіх захапіла Масковія падчас войнаў з Рэччу Паспалітай. Большасць з іх добра ведалі ваенную справу, грамату і залічваліся на дзяржаўную службу. "Служылая літва" складала значную частку ўсяго насельніцтва гарнізонаў Сібіры. Адметнаю была роля "літвы" і ў эканамічным развіцці краю, яны будавалі паселішчы, распрацоўвалі зямлю. Ужо тады пачалі ўзнікаць цэлыя вёскі, заселеныя нашымі суродзічамі.

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай у канцы XVIII стагоддзя і ўключэння беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі перасяленне ў Сібір набыло масавы характар. Туды высылаліся ўдзельнікі нацыянальна-вызваленчага руху, паўстанняў. У канцы XIX стагоддзя пачалося так званае вялікае аграрнае перасяленне — беззямелле і голад прымушалі многіх беларускіх сялян шукаць лепшай долі на малазаселеных прасторах Сібіры. Працавіты, непатрабавальны беларускі селянін пасняхова асвойваўся ў новых умовах. З 1896 па 1912 год з беларускіх зямель у Сібір выехала больш 716 тысяч чалавек. Цэлымі вёскамі ад'ехалі ў бежанства за Урал многія беларусы падчас першай сусветнай вайны, толькі ў адну Томскую губерню прыбыло каля 200 тысяч чалавек.

У міжваенны час прыток беларусаў у Сібір таксама быў значным, прычынамі яго былі сталінскія рэпрэсіі, раскулачванне, добраахвотны выезд па вярбоўцы сялян з галадаючых і разбураных раёнаў, выезд па вярбоўцы на індустрыяльныя новабудоўлі. Другая сусветная вайна ізноў вымусіла многіх беларусаў шукаць прытулку за Уралам. Толькі ў горад Новасібірск было эвакуіравана больш 140 тысяч чалавек з Беларусі. У пасляваенныя гады адток насельніцтва з Беларусі ў сібірскі рэгіён прадоўжыўся яшчэ ў больш шырокім маштабе. Спрыялі гэтаму асваенне цаліны, новабудоўлі, нафтараспрацоўкі, размеркаванне спецыялістаў-выпускнікоў і інш.

Такім чынам, сёння ў Сібіры вельмі часта можна сустрэць нашых землякоў у самых розных сферах жыцця: у эканоміцы, культуры і навуцы, у прыватным бізнесе, многія займаюць кіруючыя пасады ў адміністрацыйных органах. Доўгія гады кіраваў Сібірскім аддзяленнем АН Расіі сусветна вядомы вучоны, наш зямляк В. Капцюг, там жа ўзначальваў Інстытут геалогіі беларус акадэмік А. Трафімук.

Шырокая беларуская прысутнасць у сібірскім рэгіёне, вялікая роля яе ў асваенні гэтых багатых абшараў Расіі з'яўляецца сёння ўжо гістарычна, навукова даказаным фактам. Беларусы ў Сібіры памятаюць свае карані, вывучаюць гісторыю сваёй радзімы, культуру і захоўваюць матчыну мову. Яшчэ і цяпер у сібірскай глыбінцы жывуць цэлыя вёскі, якія захавалі аўтэнтычную беларускую культуру, чаго ўжо мала засталося ў самой Беларусі.

Голас сібірскіх беларусаў выразна прагучаў ужо на Першым сходзе беларусаў блізкага замежжа ў снежні 1992 года, скліканым Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына". Тады на радзіму прыехалі беларусы з Новасібірска, Сургута і іншых мясцін. Гэта быў час, калі сама радзіма — Беларусь упершыню паклікала сваіх раскіданых па свеце дзяцей. Дэлегаты з Сібіры прыехалі на Першы з'езд беларусаў свету ў ліпені 1993 года. Так пачалося нацыянальнае абуджэнне беларусаў-сібіракоў, нацыянальная кансалідацыя і арганізацыйнае аб'яднанне.

Асабліва актыўна разгарнулася праца ў г. Новасібірску. Яе ўзначалілі Уладзімір Галуза, Мікола Сулкоўскі, Альберт Мітэр, Уладзімір Драздоў, У. Грыгор'еў, В. Лебедзеў і інш. Дзякуючы іх намаганням, было створана і 30 чэрвеня 1994 года зарэгістравана таварыства "Беларусы Сібіры", кіраўніком быў абраны У. Галуза. Таварыства стала калектыўным сябрам Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Дзейнасць арганізацыі не абмяжоўвалася Новасібірскам, таварыства пашырала свой уплыў на іншыя гарады, прыцягвала да сябе беларусаў з розных рэгіёнаў. Праз год, у чэрвені 1995 года, таварыства ўжо здолела сабраць Сустрэчу беларусаў Сібіры, у якой прынялі ўдзел і суродзічы з Омска, Томска, Барнаула, Кемерава, Новакузнецка, Краснаярска. Удзельнікі сустрэчы прынялі Зварот да беларусаў-сібіракоў, у якім выказвалі занепакоенасць працэсам адмірання традыцыйнай культуры ў Сібіры і заклікалі землякоў ствараць свае культурна-асветныя аб'яднанні, вывучаць і адраджаць нацыянальную культуру. Таварыства набірае моц, пашыраецца, выходзіць на новыя абшары. Найбольш значная заслуга тут належыць кіраўніку суполкі. Уладзімір Галуза — высокаадукаваны чалавек, адказны і працавіты, шчыры патрыёт сваёй Бацькаўшчыны. Дзівішся часам, як чалавек паспявае ўсё рабіць: навукова распрацоўвае тэму беларускай прысутнасці ў Сібіры, выступае з дакладамі на канферэнцыях, з артыкуламі ў прэсе, вядзе штодзённую практычную працу ў таварыстве, прыязджае ў Беларусь і дабіваецца тут дапамогі для сваёй суполкі. Ён добры арганізатар розных святочных мерапраемстваў, па якіх ужо ведаюць беларусаў у Новасібірску. Фінансавую падтрымку дзейнасці суполкі забяспечвае яго паплечнік Мікола Сулкоўскі, прыватны прадпрымальнік. Дзе б ён ні быў, Мікола ўсюды і заўсёды шукае беларусаў. Здаецца, ён пайменна ведае ўсіх, хто паходзіць з Беларусі і дзе зараз працуе. Для яго заўсёды вялікае свята — сустрэць земляка, кожны беларус можа разлічваць на яго дапамогу. Побач з імі актыўна працуе беларускі чарнобылец, былы ліквідатар аварыі на ЧАЭС — Уладзімір Драздоў. У Новасібірску ён разам з сябрамі-ліквідатарамі стварыў спецыяльны фонд дзеля ўзаемнай дапамогі пацярпелым ад аварыі. Наведваючы Мінск, Уладзімір заўсёды стараецца пабываць у сядзібе "Бацькаўшчыны". Зайшоў аднойчы, прынёс кішэнны гадзіннік, зроблены па заказу іх фонду, з хваляваннем папрасіў перадаць ад сібірскіх беларусаў Васілю Быкаву і сказаць, што Васіля Уладзіміравіча вельмі шануюць і любяць у Сібіры. Пазней мы выканалі яго просьбу і спадзяемся, што гэта было прыемнасцю і для самога пісьменніка.

Зараз у Расійскай Федэрацыі прыняты новы Закон аб нацыянальна-культурных аўтаноміях. Беларусы Новасібірска ў адпаведнасці з гэтым законам вырашылі ўдасканаліць сваю арганізацыйную структуру. 27 ліпеня 1997 года адбылася ўстаноўчая канферэнцыя па стварэнні Грамадскай арганізацыі мясцовай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў г. Новасібірска. 1 верасня 1997 года арганізацыя была зарэгістравана ўладамі. Старшынёю ізноў абраны У. Галуза. Цяпер у суполкі пашырыліся магчымасці кантактаў ужо з дзяржаўнымі структурамі.

Восенню мінулага года беларусы Новасібірска, можна сказаць, паднялі на ногі ўвесь горад. Яны арганізавалі вялікае нацыянальнае свята сумесна з новасібірскім маладзёжным тэатрам "Глобус". Яно было прысвечана стагоддзю масавага перасялення беларусаў у Новасібірскую вобласць. Фестываль беларускай культуры завяршыўся 19 кастрычніка канцэртнай праграмай пад назвай "Вялікая вясельніца". У ёй прынялі ўдзел як беларускія мастацкія фальклорныя калектывы, так і мясцовыя рускія, усяго было 240 удзельнікаў. Газета "Новая Сибирь" у названым вышэй артыкуле "Сибиряк — значит белорус" пісала: "Жаль тех новосибирцев, которые не смогли увидеть и услышать белорусский праздник в "Глобусе". Не пропустите следующий. Такое не повторяется".

У рамках свята адбылася і яшчэ адна вельмі важная падзея. 20 кастрычніка ў канферэнц-зале Публічнай бібліятэкі Сібірскага аддзялення Акадэміі навук Расіі прайшлі грамадскія чытанні, прысвечаныя 480-годдзю беларускага кнігадрукавання — выданню Ф. Скарынам у Празе "Псалтыра" і першых кніг Біблії. Выступілі вядомыя навукоўцы. Былі арганізаваны выставы: "Беларусь сёння: культура і традыцыі" і "Славянскае кнігадрукаванне пасля Францыска Скарыны" (XVI—XVII ст., рэдкія кнігі і рукапісы з фондаў бібліятэкі). Па-за межамі Беларусі Скарынаўскі юбілей святкаваўся так маштабна толькі ў Новасібірску і ў Празе.

Не забываюць нашы суродзічы і пра рэлігійнае жыццё. У Новасібірску яны абралі патронкаю беларусаў Сібіры святую Ефрасінню Полацкую. Спецыяльна заказалі мастаку абраз св. Ефрасінні, потым ён быў асвячоны ў адным з храмаў горада. Гэта вельмі прыгожая выява асветніцы са знакамітым Крыжам у руках.

Зараз сп. У. Галуза заклапочаны тым, каб адкрыць у Новасібірскім педагагічным універсітэце курс спецыялізацыі "Беларуская мова і беларуская літаратура" для студэнтаў універсітэта. Дапамагчы распрацаваць праграму навучання ўзяўся ў Мінску Беларускі педагагічны універсітэт імя М. Танка. Прарэктар універсітэта Мікалай Плескацэвіч падтрымаў гэтую ініцыятыву сібірскіх беларусаў. Так што хутка будуць свае адукаваныя кадры для пашырэння дзейнасці беларускай суполкі ў Новасібірску. Хацелася б пажадаць ёй новых поспехаў. Добра было б, каб вопыт такой актыўнай працы быў выкарыстаны і іншымі замежнымі беларусамі, што яшчэ шукаюць свой шлях да Беларусі.

А тым часам і ў самой Сібіры прыклад новасібірцаў, здаецца, паспрыяў таму, што ў другім буйным горадзе — Іркуцку таксама арганізавалася беларускае таварыства імя Яна Чэрскага. Імя знакамітага даследчыка і падарожніка ўзята не выпадкова: ён наш зямляк. Суполка пачала выдаваць сваю газету "Маланка", рэдактар якой — Алег Рудакоў.

Згуртаванасць, як вядома, — моцная сіла. Самаарганізацыя беларускіх таварыстваў — актуальная задача для беларусаў-сібіракоў. У цяперашнім складаным жыцці вельмі патрэбна людзям узаемная падтрымка, дапамога, маральны камфорт, падтрымка з боку далёкай Радзімы-маці. Адным словам, крэўная еднасць можа ўратаваць многіх ад роспачы. Важна таксама і аб'яднанне беларусаў у межах цэлага рэгіёна Сібіры і стварэнне ўплывовага аб'яднаўчага органа. Працэс гэты, як мы бачым, ужо пайшоў, і можна спадзявацца на далейшае яго развіццё. ЗБС "Бацькаўшчына" будзе аказваць дапамогу сібірскім беларусам і будзе расказваць пра іх дзейнасць у сродках масавай інфармацыі.

**Ганна СУРМАЧ,**
**старшыня Рады ЗБС "Бацькаўшчына".**



**Івянецкі дзіцячы дом, што знаходзіцца ўсяго за 60 кіламетраў ад Мінска, даўно вядомы дабрынёй, цеплынёй, увагай і любоўю да дзяцей. Тут жывуць, вучацца, знаходзяцца пад пастаянным медыцынскім наглядам і атрымліваюць неабходнае лячэнне 200 хворых дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, большасць з якіх пакутуюць на дзіцячы цэрэбральны параліч.**

**У інтэрнаце працуе сярэдняя школа, абсталяваны неабходныя для хворых дзяцей медыцынскія кабінеты.**

**Набытая выхаванцамі ў майстэрнях інтэрната — швейнай, сталярнай, слясарнай, керамічнай, машынапісу і па рамонту радыё-тэлевізійнай апаратуры — спецыяльнасць становіцца часам прафесіяй на ўсё жыццё.**

**Вялікая ўвага надаецца ў інтэрнаце заняткам фізкультурай і спортам.**

**НА ЗДЫМКАХ: у швейнай майстэрні інтэрната дзяўчынкі вырабляюць шмат карысных рэчаў; у кабінеце механатэрапіі ўстаноўлена неабходная апаратура, якая дае магчымасць выправіць кантрактуру верхніх і ніжніх канечнасцей.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

## *НАМ ПІШУЦЬ*

# СУСТРЭЧА З МІНІСТРАМ

Падчас свайго візіту ў Латвію з 2 па 4 сакавіка міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Іван Антановіч, правёўшы шэраг сустрэч на вышэйшым узроўні, падпісаўшы міждзяржаўныя пагадненні эканамічнага плана, абмеркаваўшы перспектывы супрацоўніцтва ў галіне навукі, культуры і адукацыі, сустрэўся з кіраўнікамі беларускіх суполак у Латвіі і асацыяцыі беларусаў-прадпрымальнікаў Латвіі. На гэтай сустрэчы, дзе таксама прысутнічалі супрацоўнікі Пасольства Беларусі ў Латвіі і Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе, міністр расказаў аб эканамічным і палітычным становішчы ў Беларусі, аб міжнародным становішчы Рэспублікі Беларусь і ўзаемаадносінах з Латвіяй. Кіраўнікі беларускіх суполак "Прамень" Мікола Буры, "Світанак" Васіль Малышчыц, "Узлым" Станіслаў Валодзька, старшыня Фонду беларускай культуры ў Латвіі Алесь Карповіч і прэзідэнт асацыяцыі беларусаў-прадпрымальнікаў Латвіі "Беларускі шлях" Валянціна Піскунова расказалі аб дзейнасці сваіх арганізацый, аб палітычным становішчы ў Латвіі, выказалі падзяку за тую падтрымку, якую аказвае ім Беларусь, і звярнуліся да кіраўніка знешнепалітычнага ведамства Беларусі з просьбамі: хадайнічаць перад Прэзідэнтам Беларусі, перад парламентам Беларусі, каб хутчэй быў распрацаваны і прыняты "Закон аб суайчынніках, якія жывуць за мяжой", дзе павінен быць пункт аб дзяржаўнай структуры, якая будзе падрыхтоўваць базу для тых, хто жадае і мае права пераехаць з Латвіі на сваю радзіму ў Беларусь (тут магчымае і стварэнне фонду для будаўніцтва жылля для гэтых людзей); каб хутчэй былі падрыхтаваны і падпісаны міждзяржаўныя пагадненні з Латвіяй аб падтрымцы беларускай дыяспары ў Латвіі, як і латвійскай — у Беларусі, дзе павінен быць пункт аб узаемным заліку працоўнага стажу як для выхадцаў з Латвіі, якія жывуць у Беларусі, так і для выхадцаў з Беларусі, якія жывуць у Латвіі; наладжваць мацнейшыя эканамічныя сувязі беларускіх прадпрыемстваў з латвійскімі, асабліва з тымі, дзе працуе больш нашых суайчыннікаў; аказваць падтрымку бізнесу і прадпрымальніцтву ў Латвіі, якое дапамагае нацыянальна-культурнаму развіццю беларусаў Латвіі, а менавіта фірмам асацыяцыі прадпрымальнікаў беларусаў Латвіі "Беларускі шлях"; дазволіць уезд у Рэспубліку Беларусь неграмадзянам па штампу ў пашпарце неграмадзяніна (як гэта робіць Расія) ці адмяніць запрашэнні; каб МЗС Рэспублікі Беларусь больш выкарыстоўвала свае магчымасці сустрэч на вышэйшым узроўні, ставячы пытанні лібералізацыі латвійскага Закона аб грамадзянстве і Закона аб дзяржаўнай мове Латвіі; спрыяць выпускнікам латвійскіх школ, нашым суайчыннікам, асабліва тым, якія вучыліся ў беларускіх школах, у тым ліку і нядзельных, у паступленні без конкурсу ў ВНУ Беларусі (для многіх з іх бар'ерам для паступлення ў ВНУ Латвіі з'яўляецца недастатковае валоданне латышскай мовай); паспрыяць у рамках дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце" адкрыццю цэнтраў беларускай культуры, дзе магло б знайсціся месца і інфармацыйна-камерцыйнаму напрамку спачатку ў Рызе, а затым — і ў Даўгаўпілсе. Ёсць тут і просьба пахадайнічаць перад Латвійскай дзяржавай аб выдзяленні будынка, які адпавядаў бы сучасным патрабаванням, для нацыянальнай беларускай школы ў Рызе.

Спадар Антановіч, уважліва выслухаўшы выступленні прадстаўнікоў беларускіх суполак у Латвіі, паабяцаў зрабіць усё ад яго залежнае, каб задаволіць просьбы латвійскіх беларусаў і аблягчыць жыццё сваіх суайчыннікаў у Латвіі.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**

г. Даўгаўпілс.

# ДАЛАН АБ БЕЛАРУСАХ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

## НЯМЕЦКІЯ ПАЛІЦАІ

Турма навучыла мяне ацэньваць людзей не па тым, што яны распавядаюць аб сабе, а па іхніх учынках і па ўласных назіраннях за іхнімі паводзінамі і характарамі. Там сустракаліся і такія, што ўмеюць віць вяроўкі з пяску.

Афанасьеў здзівіў мяне звесткай, што ва ўнутранай турме сярод зняволеных ёсць паліцэйскія. "Адкуль у нас узяцца паліцэйскім? Няўжо толькі зараз саджаюць тых, хто служыў у царскай паліцыі? Дзіўнае штосьці распавядаюць аб іх", — падумаў я пра сябе. Потым даведаўся, што гэта ніякія не царскія паліцэйскія, а нямецкія паліцаі.

Сталінскі рэжым ператварыў дзяржаву ў краіну сляпых і глухіх, у краіну суцэльнай цемры. Усё зрабілася сакрэтным, сакрэт на сакрэце: нікому невядомыя нумарныя заводы, паштовыя скрынкі, ілжывыя карты, сакрэтныя генералы, звышсакрэтныя вучоныя, ілжывыя артыкулы ў газетах і часопісах, фальш па радыё. Усё гэта заблытвала, дэзарыентавала людзей да таго, што яны перасталі адрозніваць праўду ад маны. Жыхары якуцкіх вёсак ведаць не ведалі, якія экспедыцыі працуюць на іхняй роднай зямлі, што шукаюць і што знаходзяць. Аб тым, што робіцца ў суседніх раёнах, якія гарады і пасёлкі паўстаюць, дзе будуюцца капальні, дзе знаходзяцца лагеры, ім папросту і не дадзена было ведаць.

І ў горадзе, у студэнцкім асяроддзі, назіралася тое ж самае: мы не ведалі, што на самай справе адбываецца ў Якуціі, бо пазбаўлены былі магчымасці бачыць карціну рэальнага жыцця ва ўсёй паўнаце. Выкладчыкі прапаноўвалі нам інфармацыю радыё і газет прапагандысцкага кшталту, лектары чыталі лекцыі такога ж характару. Мы не мелі ўяўлення аб разгалінаванай сістэме лагераў "Дальбуда", якія ахоплівалі велізарную тэрыторыю. Мы не ведалі аб існаванні Алах-Юньскага, Алданскага і іншых лагераў. У нас, у Чуранчы, было вядома толькі аб хандыгскіх зняволеных. І толькі таму, што ў першыя гады вайны на зімніку, які праходзіў побач з Чуранчынскім педвучылішчам, праязджалі ў напрамку Хандыгі крытыя аўтамашыны, напханыя зняволенымі. Часам можна было разгледзець саміх зняволеных з вялікімі чорнымі нумарамі на "бушлатах". Жыхары між сабою перашэптваліся, што гэта "здраднікі", "уласаўцы"... Ва ўсе часы цёмныя і брудныя справы здзяйсняліся пад покрывам таямніцы. Гэткая сакрэтнасць яшчэ болей умацоўвала аўтарытэт супрацоўнікаў МДБ, а таямніца палохала людзей, нагнятаючы атмасферу ўсеагульнага страху.

Неўзабаве ў камеру нашу ўвялі трэцяга. Гэта быў беларус Матыліцкі — былы нямецкі паліцай. Высакарослы, але крайне змардаваны, з запалымі бегаючымі вачамі, турботны, рухавы і нервовы, ён быў старэйшы за мяне, але маладзейшы за Лукаўцава: гадоў трыццаці. Пры ўсёй малапісьменнасці сваёй размаўляў па-руску свабодна, без акцэнта. Ні разу не чуў я, каб Матыліцкі гаварыў на роднай мове. Ён не пачаў у адкрытую, як мы, распавядаць, за якую канкрэтна віну асуджаны, пэўна, прайшоў нямала турмаў, ссылак, следстваў, навучыўся, як паводзіць сябе ў падобных сітуацыях, — так, наогул, мімаходзь. З адрывачных аповядаў Матыліцкага мы з Лукаўцавым зразумелі, што ва ўнутранай турме шмат іх, з беларускіх вёсак, знаёмых адзін з адным, звязаных адной справай. Сядзелі яны ў розных камерах. Ім, былым паліцаям, пасля вайны далі па шэсць гадоў ссылкі (тых, на кім ляжала цяжкая віна, пэўна, адразу ж расстралялі) і адправілі ў Якуцію на розныя капальні: Брындакіт, Ынықчан, Эльдзікан, Югаронак, Алдан і г. д. Але ў пачатку пяцідзесятых іх ізноў прыцягнулі — пачалося новае следства. На гэты раз ім уляпілі па 25 гадоў і вярнулі на капальні. Вызвалены яны былі пасля смерці Сталіна.

Матыліцкі, па-мойму, быў якімсьці павярхоўным, легкадумным стварэннем, якое паддавалася нават найменшаму павеву. Нездарма ж у турме землякі празвалі яго Матылькам. Ён на гэта зусім не крыўдаваў. Калі і зрабіўся здраднікам, то наўрад ці па глыбокім перакананні, ці з-за варожасці. Ні з Лукаўцавым, ні са мной ён не спрабаваў сысціся, проста існаваў сам па сабе побач з намі. Потым яго забралі.

Пазней трапіў я ў камеру з фашысцкім паліцаем Хаміцэвічам. Гэты спакойны, сціплы саракагадовы беларус-селянін з нязменнай усмешкай на твары быў ніжэйшы за мяне ростам, каржакаваты і мажны. З цяжкасцю ўмеў чытаць і пісаць. Па-руску гаварыў з прыкметным акцэнтам. За якую віну прыцягнуты і зараз знаходзіцца пад следствам, не гаварыў. Калі пыталіся пра гэта, гасіў усмешку і безнадзейна махаў рукою.

Беларусы, якіх прывезлі з Алах-Юня, да паўночнага зняволення жылі на свабодзе, як вольнанаёмныя работнікі, толькі адзін раз адзначаліся. Мелі такія-сякія заробкі. А ва ўнутранай турме па заканчэнні следства падследнаму дазвалялася купляць ежу на пяцьдзесят рублёў у месяц. Дык вось, Хаміцэвіч таксама купляў ежу і дзяліўся са мною. Да таго часу маё першае хваляванне і страх памалу ўлегліся, прачнуўся малады апетыт, ужо не хапала турэмнага пайка чорнага хлеба і смярдзючай фасолевай баланды.

Пэўна, следства па справе Хаміцэвіча было ўжо скончана, выклікалі яго рэдка. Усе нягоды турэмнага жыцця ён пераносіў са спакоем і цярпеннем, якія ўласцівы звыкламу да любой нястачы селяніну. Сам ён не быў аматарам расказваць, але якуцкія казкі ў перакaзе маім слухаў з задавальненнем, у смешных месцах па-дзіцячы радасна ўсміхаўся. Хаміцэвіча з першай калоніі этапіравалі ў Брындакіт, дзе ён і памёр у шахце. Распавядалі, нібыта ён прысеў адпачыць і болей не падняўся.

З трэцім з маіх знаёмых-паліцаяў Мікалаем Крывальцэвічам я сядзеў усяго некалькі дзён. Некалькі апошніх дзён маіх ва ўнутранай турме. Ён, сын беларускага калгасніка, на год-два старэйшы за мяне, меў пяць-шэсць класаў адукацыі. Па-руску гаварыў чыста, быў па-сялянску разумны і хітры, але дробязны. Крывальцэвіч таксама прайшоў усе кругі пекла, але ўсё ж падаўся мне больш адкрытым, чым тыя два ягоныя землякі.

Крывальцэвіч пайшоў у паліцаі, каб не быць угнаным на чужыну. Акупацыйныя ўлады хапалі без разбору маладых і адпраўлялі на працу ў Нямеччыну. Гэткай цаной Мікалай застаўся на радзіме і з роднымі. Спярша паліцаі выконвалі функцыі мясцовай паліцыі, сачылі за парадкам, усё было ціха, мірна. Але спакойная служба працягвалася нядоўга, і барацьба дзвюх сістэм усё больш і больш спусташала беларускія вёскі — з'явіліся партызаны. Супраць апошніх немцы вырашылі выкарыстоўваць паліцаяў. Яго таксама пачалі пасылаць у карныя экспедыцыі. Крывальцэвіч абвінавачваў партызанаў: маўляў, калі б не яны, ніякай бяды не было б. Падчас следства ў яго выпытвалі, хто дзе служыў, у якіх карных экспедыцыях прымаў удзел. Пэўна, паказанні адных беларусаў, якія ўтрымліваліся ва ўнутранай турме, выкарыстоўвалі супраць іншых. У ваеннай сумятні і адразу пасля вайны, мабыць, цяжка было разабрацца да канца, хто ў што быў ублытаны і наколькі вінаваты.

"Як толькі пачалася вайна, камісары кінуліся ратаваць свае шкуры, а нас, простых рабацяг, пакінулі на расправу фрыцам", — паўтараў Крывальцэвіч. Гэта была агульная крыўда беларускіх сялян, усе яны вінавацілі сваё кіраўніцтва.

Мікалай так і не распавёў, як ён асабіста ўдзельнічаў у тых самых карных экспедыцыях, а мне вельмі хацелася даведацца падрабязнасці. Што і як прымушае чалавека здрадзіць Радзіме, якія цёмныя сілы бяруць верх над ім? Цікаўна і аднačасова страшнавата было задумвацца над гэтым, слухаючы Крывальцэвіча. Бо я тады быў чырвоным, ультрачырвоным да мозгу касцей, няздольным шукаць нейкіх змякчаючых абставінаў, улічваць жыццёвыя складанасці, шматварыянтнасць чалавечых дзеянняў, дапускаць альтэрнатыўнасць рашэнняў, што прымае чалавек. А Мікалай ахвотней, чым аб вайне, апавядаў аб пакінутай ці то ў Інікчане, ці то ў Эльдзікане жонцы, аб тым, што жонка абавязкова сыдзе ад яго з-за гэтага арышту, пры гэтым прысвоіць сабе іх агульную маёмасць. І што ён, загадзя прадбачыўшы гэта, ужо падаў у суд на падзел маёмасці.

Пасля двух гадоў зносін з Мікалаем і Самуілам Крывальцэвічамі, братамі Прышчыцамі, Хаміцэвічам і іншымі беларускімі сялянамі, якія перацярпелі нямецкую акупацыю, я зразумеў, што яны ўсяго толькі бедныя, цёмныя калгаснікі, якія апынуліся між двух агнёў, што абпалілі іхнія жыцці і лёсы. І мне зрабілася шкада іх. Ці ж вінаваты гэтыя непісьменныя сяляне ў тым, што вайна пракацілася па іхняй зямлі? Не, гэта іх гора і пакута. Я ўспомніў, што здарылася з намі, якутамі, у гады мясцовай грамадзянскай, якая не ідзе, канечне ж, ні ў якое параўнанне з размахам адгрукацелай толькі што вайны. Брат ішоў на брата, сын на бацьку, дачка на родную маці, і доўга, ах, як доўга не затухала варожасць між далёкімі і блізкімі, распаўсюджваючыся ў прасторы і часе... А які ж удар абрынуўся на беларускі народ, што ў выніку згубіў трэць самога сябе?!

Яшчэ адной прычынай таго, што немцам лёгка ўдалося завербаваць беларускіх сялян, акрамя выказанай Крывальцэвічам крыўды на камісараў, былі калгасы. Хаця напрамую аб гэтым не гаварылася (у турме поўна стукачоў і даносчыкаў, і таму лёгка атрымаць другі тэрмін), яны не хавалі сваёй нянавісці да сталінскіх калгасаў. З гаркотаю-знявагаю абзывалі іх "чырвонымі аглоблямі і дарэмнай працаю". Употай і намёкамі давалі зразумець, як пазбавіліся ўласнай зямлі, засталіся без быдла, згалелі, згаладалі. Здавалася, супраць калгасаў пайшлі б яны служыць не толькі акупантам, але і самому чорту.

І ў турме, якая агаляла ўсе язвы чалавечыя, яны не згубілі сваёй годнасці, душэўных якасцей. Яны, што нарадзіліся і выраслі далёка-далёка ад зямлі якуцкай, чымсьці былі падобныя на маіх суродзічаў. Пэўна, падобнасць гэтая тлумачыцца любоўю да роднай, хаця і такой недасяжнай зараз і таму асабліва блізкай, зямлі, да зямлі бацькоў і дзядоў. І сумам па страчанаму ўкладу жыцця, жыцця да калектывізацыі. І бясхітраснымі, яснымі, без зла адносінамі да людзей... Таму да іх ставіўся я як да сваіх землякоў.

*(Пераклад з выдання: ДАЛАН "Отчество исправили... (повесть-воспоминание)" — "Полярная Звезда").*

**Публікацыю падрыхтаваў
А. БАРКОЎСКІ.**

**Сяргей ПАНІЗЬНІК**

*З цыкла "Мой Купала"*

### «НОВЫ ЎЗНЕСЦЬ ПАСАД»

(Янка КУПАЛА. "Час!", 1918 Г.)

*Дырэктару літаратурнага музея Янкі Купалы Жанне Казіміраўне ДАПКЮНАС.*

**Замаладзела Неба ў золкай раме
прызыўна:
— Дзень, у сэрца ўкараніся
і пакланіся звеставанай Даме,
шчакой неўначаванай прытуліся.
Натхніцельку
праворлівых імгненняў
у сутарэнні гналі: "Бараніся!"...
Дзень, пакланіся божаму стварэнню,
на лік любові — сонца —
павярніся.
У Дамы прамяністыя маністы,
а вочы толькі й просяць:
"Не скарыся!
Купалу адгукніся, каб гарністы
анёльскія
над кожным днём
віліся"...
О, Беларусь,
прабудна
усміхніся!
З павяўшай славы зложым сказ агністы.**

### «ЁСЦЬ ЖА ЯШЧЭ Ў МЯНЕ ВЕРА...»

(Янка КУПАЛА. "Ёсць жа яшчэ...". 1926 Г.)

*Кіраўніку тэатра "Зьніч" Галіне ДЗЯГІЛЕВАЙ, аўтарцы праграмы "Мне сняцца сны аб Беларусі!" паводле твораў Янкі Купалы.*

**Вас
муза Званара
сустрэла,
дала вам дужасці.
...У кожнага народа Дрэва
з галінак мужнасці.
Для нашай нацыі Купала —
скрыжальнай кронаю:
галінка кожная гучала
зязюляй роднаю.
Цяпер
праз вас
Прарока чуе
юнак усцешаны.
Купалаў кліч вясну вяшчуе:
ш л я х н е з а в е р ш а н ы!
Дні
вымяраць мы будзем
з вамі
я г о хвілінкамі, —
каб
на нязломным Дрэве
звалі
і нас — г а л і н к а м і.**



**У вёсцы Хомск, што на тэрыторыі калгаса імя Кірава Драгічынскага раёна, новае афармленне атрымаў пасля рамонту магазін прамысловых тавараў.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

# ПРУСКАЎСКІ УЛІС

Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

Іван нешта рабіў на панадворку, каля хлява, і ўбачыў яго здалёк. На галаве ў яго насунуты на лоб шыракаполы капялюш з плоскімі палямі. "Не той, не саламяны", — падумаў прускавец. Але камбінезон і боты, відаць, тыя ж. Ён сардэчна пацісну руку былому работніку. Крыху пастарэў, паддаўся націску часу. Каля вуснаў праступілі маршчыны.

— Я гляджу: агароджа ў вас стала вышэйшай!

Іван засмяяўся:

— Чым вышэйшая агароджа, тым чысцейшае поле.

Замест калодзежа — калонка. Пампуе ваду з глыбіні.

На ганак выйшла Мелані. Яна зусім не змянілася. Пазнала і ўсміхнулася. Павіталіся. Госця запрасілі ў хату.

Тая ж мэбля, на падаконніках усё тыя ж кветкі герані, на сцяне знаёмая лямпа з бліскучым адлюстравальнікам. На стале стаяў грамафон фірмы "Віктор" — павеў новага. Лявонка расказаў пра сябе, пра свае прыгоды. Працаваў у "Форд-мотар-кампані", у Дэтройце. І без працы доўгі час быў. Рыбачыў на Вялікіх Азёрах. Прастудзіўся, плаваючы на караблі, урачы параілі падацца далей ад вады — у глыб кантынента. Доўга ў Амерыцы заставацца не плануе, з даўгамі разлічыўся, пара дадому. Што яму тут рабіць — аднаму?

— Манкі бізнес! — паспачуваў фермер.

— Здзекуюцца з прыезджых, эмігранты здольныя многае выцерпець, — уздыхнула Мелані.

— Падсмаж нам яечню з бэконам, — сказаў Іван, маючы на ўвазе, відаць, Лявонкавы падупалыя сілы, якія трэба падтрымаць, і ўсміхнуўся госцю: "Ой! Работы ў нас шмат! Сёлета я пакуль што нікога не браў — усё роўна як ведаў, што прыедзеш.

Іванавы словы ўзрадавалі прускаўца. Ён і сам не мог зразумець, чаму і за што людзі да яго добра адносіліся. Вось як гэты фермер. Мог жа сказаць — шукай работы ў іншым месцы, але не сказаў. Ведае, мусіць, што не падвядзе, таму і пакідае.

— Правільна зрабіў, што вярнуўся. Земляробства, братка, аснова ўсяго! Без зямлі чалавека няма.

Прускаўцу карцела спытаць пра Аннет, але ён не рашаўся. Падтрымаў думку гаспадара:

— Так, сапраўды, мусіць, нарадзіўся я земляробам, і сялянская праца мне па душы. Цягне да яе, да вясковага ўлоння.

Гаспадары згодна ківалі галовамі. Нарэшце ён не вытрымаў:

— Аннет ужо скончыла коледж?

Адказала маці:

— Скончыла яшчэ ў мінулым годзе. Цяпер настаўніца, у Маршалтаўне.

— Дык табе, відаць, пара ўжо і натуралізавацца? — сказаў Іван.

— Што вы маеце на ўвазе?

— Гэта значыць атрымаць амерыканскае падданства.

— А што гэта дасць?

— Будзеш мець голас на выбарах, правы...

Было над чым падумаць.

Праца на ферме ішла па заведзеным земляробчым календары. Адпачываць надта не было калі, і ён улёгся ў работу.

Не, новага на ферме шмат. Асабліва здзівіла, што ў гаспадарцы з'явіліся невядомыя дагэтуль машыны. Іван, ужо без бацькі, паспеў купіць трактар — "Фардзон". Тут Лявонка некалі ўпершыню сеў на жнярку, а цяпер, можа, трактарам давядзецца пакіраваць? Ці толькі трактарам? У гаражы стаяў "Форд" мадэлі "Т" з адкідным верхам.

— Добрая машына! — пахваліў Лявонка. Гэтую машыну якраз на тым заводзе ў Дэтройце і рабілі.

— Гэп "б'юік" купіў. Кажуць, "б'юік" лепшы. Цана аднолькавая... — развёў рукамі Іван.

Лявонка ўспомніў, што Гэпы — суседзі Бузукоў, што іх сын Пітэр лічыцца жаніхом Аннет.

— Амэрыка, брат, машынная нацыя! Чалавек без машыны — на што ён годны? Нават самы дужы не пацягаецца з машынай!

— З машынай не пацягаешся, — згадзіўся прускавец.

Некалі Іван здаваўся больш мяккім у параўнанні з бацькам. Цяпер і ў ім таксама з'явілася бацькава ініцыятыўнасць, імкненне да мэты і сама мэта.

— Людзям трэба плаціць, — засмяяўся Іван, — машына грошай не бярэ. Праўда, яе таксама трэба змазваць, раматаваць...

* * *

Аднойчы, вяртаючыся з поля, рана скончыўшы працу, прускавец завітаў да квакераў. За пару міляў адсюль яны, аказваецца, жылі цэлым селішчам. Цікавыя людзі і сустрэлі прыязна, пачаставалі баршчом, шчодра запраўленым маслам. Каню далі аўса, змешанага з сечкаю.

Лявонка прыглядзеўся да незнаёмых людзей. У абліччах некаторых з іх праглядваліся рысы індзейцаў. Падышоў святар у доўгім чорным сурдуце і нізкім шыракапольным капелюшы, павітаўся. Лявонка сказаў, хто ён, адкуль.

— Бог адзін, — адпавеў святар. — Але мы не прызнаём царквы, яна толькі замінае ў адносінах чалавека з Богам.

Ён гаварыў з уласцівай для квакераў стрыманасцю, нават урачыстасцю.

Квакеры як бы пахваліліся, што не бяруць у рукі зброю і што ў мінулым гэта прычыняла ім шмат непрыемнасцей. Нейкі мужчына з пакалмачанай, як пакля, барадой, уважліва пазіраючы на Лявонку, сказаў:

— Фермеры па ўчастках жывуць — кожны асобна, а мы — селішчамі, супольна.

— У вас як бы свой невялікі горад...

— Не-е! У горадзе жыве д'ябал...

Зноў узяў слова святар:

— Бог стварыў свет, прыроду і ўсё, што ёсць на зямлі, і падарыў чалавеку, сказаўшы пры гэтым: "Жыві з усім у згодзе!" А чалавек?

Прысутныя сумна ўздыхнулі.

— А чалавек, — працягваў святар, — аказаўся разбойнікам: хапае, рве, нявечыць, знішчае... Усё гвалтам і гвалтам. Плуг прыдумаў, машыны... Распарвае жалеззем грудзі зямлі, кідае туды зерне: "Хочаш — не хочаш, зямля, а гадуй!" Вырасце тое збожжа, ён ізноў жалеззем яго пад корань!

Прускавец ніколі не думаў, што можна разважаць такім вось чынам. Пасля непрацяглага маўчання чалавек з пакамечанай барадой сказаў:

— Мы жывём у дабрачэсці, заставайся ў нас. У нас будзеш здаровым і багатым. Багацце — узнагарода за ўзорнае і бязгрэшнае жыццё.

Прускавец уважліва слухаў, а ў адказ сказаў:

— Для мяне новае, што я ад вас пачуў. Адразу адважыцца цяжка.

Вусны святара пасміхнуліся.

Развітаўшыся з гасціннымі квакерамі, Лявонка падумаў пра тое, які разнастайны і шматаблічны свет. Квакеры чымсьці нагадалі яму дзівака Кузёмку з яго развагамі пра людзей, іх жыццё і норавы.

Калі станавілася асабліва самотна, успамінаў Пруску. Напісаў ліст.

"Дарагія мае мама, дзядуля і сястрычкі! За апошнія гады я шмат дзе быў, а цяпер зноў на той самай ферме, на якой працаваў раней. Не пісаў, бо пакуль пераехаў з азёраў, дзе меў сталую працу на караблі з рыбакамі. Таго гаспадара няма, памёр, гаспадарку вядзе яго сын Іван. Вядзе спраўна і жыве няблага. Я паназіраў. Адны тут жывуць добра, а другія — па гарадах — надта ж бедна, у вельмі цяжкіх умовах, але кожны імкнецца разбагацець. Дзеля гэтага людзі ідуць на ўсё. Але не кожнаму гэта ўдаецца..."

Ён успомніў капітана смака — няшчаснага Лукаса. Ці выплыў ён? А Спайдэр?

Напісаў пра сябе:

"Шанцуе тут мне, як Кузёмку на попрадках. Прызнаюся, думаў нават ехаць у Канаду — там, кажуць, работу можна знайсці. Хутчэй. Тут з працай дрэнна. Колькі месяцаў працуеш, а потым ізноў без працы. Перадайце, хто збіраецца сюды, што я не раіў бы пакуль што кранацца з месца. Стала цяжка з работай. Ля біржы працы вялікія чэргі. Ноччу на адной з вуліц давалі галодным беспрацоўным па шклянцы кавы і па кавалку хлеба, але жадаючых збіралася столькі, што не даступішся. Часам за тым падмацункам даводзілася стаяць усю ноч, і часта ўсім не хапала. Пішу вам не тое, што чуў, а што сам ведаю. Тут у каго больш грошай — у таго і сіла. Беднаму не толькі не спачуваюць — ім нават пагарджаюць. Тут мне прапанавалі грамадзянства, бо я ўжо ў Амэрыцы больш, як пяць гадоў, але нашто яно мне, калі я знудзіўся па вас.

Напішыце, як там Ганна Васілішына? Перадавайце ёй прывітанне..."

У завяршэнне ліста ішлі шматлікія паклоны.

У канцы прыпісаў:

"Учора мне снілася Пруска. Наша поле ля Бярэзіны. Будзьце здаровенькія і шчаслівыя.

Ваш Лявонка.

29.VII.1913 г."

У разгар лета прыехала Аннет. Адбылося гэта ў нядзелю раніцай. Ён прыбіраў пасцель у сваім "павільёнчыку" і пачуў, як Мелані сказала:

— Ой, Ганначка! Каб ты ведала, хто ў нас! Лявон!

Ён не чуў, што адказала дачка.

Селі снедаць. Аннет за сталом не было. На снеданне, як і раней, гаспадыня пякла ляпёшкі, смажыла яечню, варыла аўсянку, густую і вязкую. І ўсё — смачнае.

Праз нейкі час, паравеўшы дух пасля дарогі, выйшла Аннет. Апранула напэўна лепшую сваю сукенку, падфарбавала вусны, прынесла ў пакой свежы водар чыстага дзявочага цела. Ён бачыў, як наліліся і акругліліся яе бёдры і плечы.

Павіталіся. Яна прыязна пасміхнулася. Лявонка заўважыў, што Аннет у многім змянілася з таго часу, здаецца, нават падрасла, але па-ранейшаму такая ж жывая і жыццярадасная.

У размову не ўмешвалася. Гаварыў Іван:

— Вучоныя, кажуць, прыдумалі штучную яду. З'еў таблетку і цэлы дзень сыты. І ў поле не трэба абед браць. Знай сабе працуй...

— Не можа такога быць! — не паверыла Мелані. — Няўжо жанчыну калі-небудзь вызваляць ад кухні?

Іван пацісну плячыма — на гэта ён не мог нічога адказаць.

Наперадзе чакаў працоўны дзень.

Пад вечар Аннет падышла да яго, калі ён сядзеў на лавачцы. Пасміхнулася. У вачах замітусіліся гарэзлівыя матылькі. Адчуўся ледзь улоўны пах парфумы.

Мужчынская прырода, вядома, патрабавала блізкасці з жанчынай. Але вось цяпер, сустрэўшы яе, ён чамусьці не адчуў ніякага хвалявання.

— Як склалася жыццё ў Дэтройце?

— Па-рознаму. Я не толькі ў Дэтройце быў.

— А дзе яшчэ?

— Рыбачыў на Вялікіх Азёрах.

— Вось як!

— А ты настаўніцай працуеш?

— Настаўніцай.

— Дзяцей вучыш?

Аннет кіўнула галавой.

— Цікава?

— Вельмі.

— Рады за цябе. А я тут паспеў наведаць квакераў.

— Квакераў ці яшчэ каго-небудзь у Маршалтаўне? — усміхнулася Аннет, церабячы ў руках белую баціставую хусцінку.

Ён здагадваўся, на што яна намякала. На жанчын, не інакш. У Маршалтаўне, не сакрэт, заўсёды можна знайсці жанчыну.

— А я сапраўды быў у квакераў. Вось квакеры, дарэчы, на жанчын нават не пазіраюць.

Пра квакераў яна ведала, напэўна, не менш, чым ён.

— Гэта так. Каханне да шлюбу ў іх не дазваляецца. — І дадала: — Каханне за грошы таксама не каханне.

"Чытае мне натацыі", — падумаў Лявонка.

— Ці навучыўся ты ездзіць на байку?

Лявонка пасміхнуўся, успомніўшы, як Аннет вучыла яго трымацца на веласіпедзе, і адмоўна пакачаў галавой.

— Не-е...

Потым расказваў пра сваё жыццё ў Дэтройце і на Вялікіх Азёрах. Але развіталіся яны суха:

— Што гэта я ўсё гавару і гавару без перапынку. Ды яшчэ і на благой мове, — сказаў ён, нібы просячы прабачэння, — не ведаю я мовы настолькі, каб свабодна расказваць на ёй.

— Не, чаму? Цікава! — не пагадзілася яна. У яе словах пачулася нейкае какецтва.

— Цікава? Хто яго ведае... — ён пацісну плячыма. — Квакеры наогул не паважаюць тых, хто шмат гаворыць.

— Мы ж пакуль што не квакеры...

Ён баяўся: а раптам адносіны з Аннет стануць такімі, што давядзецца застацца тут, можа, назаўсёды. Дарэмна: падстаў для гэтага, здаецца, не было. Праз некалькі дзён Аннет паехала. Яму чамусьці стала шкада яе. І чаму яна так нечакана знікла? Можа, на яе ад'езд паўплывала тое, што за дзень перад гэтым яна ўбачыла, як ён запрог двуколку і паехаў у Маршалтаўн? А яму трэба было даведацца, ці было ў Маршалтаўне прадстаўніцтва параходнай кампаніі, каб, калі будзе патрэбна, узяць білет да Лібавы... Развітанне з Аннет доўга не выходзіла з галавы, але нарэшце ўпэўніўся, што зрабіў правільна.

Здавалася, можна было і жыць, але пастаянна нешта гняло. Найбольш — нейкі стан няпэўнасці, у якім ён знаходзіўся. Кожны раз лавіў сябе на думцы, што ўсё навакол было чужое, не яго. Гаспадары — мілыя людзі, але неставала адчування прывязанасці, ці, лепш сказаць, прыналежнасці да таго свету, які яго акружаў.

Ужо ўваходзіла ў сваю пару ілінойская восень. Нізка-нізка над зямлёй слаліся сівыя туманы, рознакаляровымі лісцікамі трымцела на дрэвах "індзейскае лета". Прыемна ў такі час пахадзіць па лесе. Нідзе чалавек не адчувае хараство зямлі і сваю адзіноту так, як сярод асенняй прыроды. Восень на рэдкасць цёплая, можна сказаць, ласкавая, але хутка зараве тарнада. Добрае і благое мяжуюцца паміж сабой. Так заўсёды ў жыцці.

Пастаяўшы ў лесе, Лявонка вяртаўся на ферму. Пад нагамі шалясцела сцярня. Скаціна бадзялася па полі, падбіраючы ацалелыя пачаткі кукурузы і каласкі. Каровы тут былі джэрсейскай пароды — невысокія, рудаватыя, з цёмнымі карычневымі плямамі на баках, з цяжкім вымем, шырокімі раскідзістымі рагамі. Адна жывёліна нядаўна аціплілася проста на лузе. Нанач цялятка разам з маці загналі ў хлеў, дзе стаяла печ, якую палілі кукурузнымі качаражкамі, і было добра цёпла.

Набліжалася свята — дзень удзячнасці. Раніцай 11 лістапада гаспадар пастукаў у дзверы Лявонкавага "павільёна".

— Уставай! Сёння ў нас свята! У гэты дзень успамінаюць продкаў. Дзень удзячнасці — гэта па сутнасці тое ж, што ў беларусаў Дзяды, але ў Амэрыцы ён адзначаецца больш шырока і пашанотна. У гэты дзень дабрачынныя арганізацыі робяць усё, каб кожны галодны і бяздомны меў бясплатны кавалак індзейкі.

— Гуд монінг! — павітаўся Лявонка.

— Гуд монінг! Пайшлі ў хату! — запрасіў гаспадар.

Прускавец памыў рукі, спырснуў твар вадой і зайшоў да гаспадароў. Вакол стала, які ў Бузукоў упрыгожвала смажаная індзейка, завіхалася Мелані. Панаваў святочны настрой. Было, як кажуць у Прусцы, хлеба і да хлеба — стол ламаўся ад талерак з рознай ежай. Перад тым як сесці, памаліліся. Гэта была малітва ўдзячнасці.

**Працяг.**

**Пачатак у №№ 11—13.**

**15 ГАДОЎ НАЗАД, 7 КРАСАВІКА 1983 ГОДА, ПАМЕРЛА БЕЛАРУСКАЯ ПАЭТКА ЛАРЫСА ГЕНІЮШ**



# «ЧЫСТАЯ, НІБЫ СЛЯЗА»

Ціхі гарадок Зэльва знатны слыннай паэткай Ларысай Геніюш. Нялёгкая выпала ёй доля. Відаць, большасці творцаў лёс наканаваў побач са шчасцем любіць свой край — цярпець маральныя і фізічныя мукі. Ларысе Геніюш выпала іх надзвычай шмат. Сведчанне гэтаму — яе жыццё і творчасць.

Нарадзілася яна ў 1910 годзе ў маёнтку Жлобаўцы каля Воўпы (цяпер Ваўкавыскі раён). Вучылася ў Гудзевіцкай школе, скончыла Ваўкавыскую польскую гімназію. У 1937 годзе паехала ў Прагу, там вучыўся ва універсітэце яе муж Іван.

Бурны гэта быў час, багаты на падзеі. Ён захапіў, закружыў у сваім віры дзяўчыну з-пад Зэльвы. Яна актыўна ўдзельнічала ў жыцці эміграцыі, нават была сакратаром урада БНР. У час акупацыі Прагі друкавалася ў газетах, якія тады выходзілі, у часопісе "Новы шлях". У 1948 інтэрнíравана ў СССР, асуджана на 25 гадоў. Пакаранне, якое было праз шмат гадоў зменшана да васьмі, адбывала ў лагерах на Поўначы. У 1956 вярнулася на радзіму і пасялілася ў Зэльве, дзе памерла пятнаццаць гадоў таму.

Дом, у якім жыла паэтка, самы звычайны, аднапавярховы. Адметнасць яго — мноства кветак у двары. Іх Ларыса Антонаўна вельмі любіла.

Гэта прыкмячалі тыя, хто яе наведваў. Найчасцей прыязджалі Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў, Данута Бічэль-Загнетава, Міхась Чарняўскі і іншыя. Такія візіты былі для яе радасцю, бо ў Зэльве да Ларысы Геніюш ставіліся насцярожана.

Больш як чвэрць стагоддзя, пражытага на радзіме, яна тварыла. Хапіла часу, каб асэнсаваць, абагульніць перажытае і бачанае, глянуць на свой шлях як бы збоку і даць яму мастацка-дакументальнае ўвасабленне. Кніг яе надрукавана за гэты час не шмат — "Невадам з Нёмана", "На чабары настоена", "Белы сон", дзве кніжкі для дзяцей. Пяць гадоў таму ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" пабачыла свет асобным выданнем "Споведзь" — дакументальная аповесць "пра сябе". У анатацыі да яе сказана, што Л. Геніюш "прайшла жудасныя этапы, сталінскія лагеры смерці. Твор — шчырая споведзь нязломнага, дарэшты адданага Бацькаўшчыне чалавека, бясконца ўлюбёнага ў свой родны край, у людзей сваёй зямлі".

Менавіта бязмежная любоў да Беларусі і яе людзей памагла Ларысе Антонаўне перанесці ўсе цяжкасці, здзекі, крыўды, гора... Пра гэта яна расказала, нічога не ўтойваючы, называючы прозвішчы, апісваючы шмат падзей, вядомых палітыкаў, літаратараў, замежных і сваіх грамадзян. Вось некалькі яе ацэнак:

"На шчасце для Эўропы, Гітлер быў заваяваўцелем, але абсалютна паганым палітыкам, і ня трэба было вялікага розуму, каб прадбачыць канец авантуры". "Сталіна няма, але яны тут родзяцца, як грыбы, і хто ведае, ці зноў з якога духоўнага семінарыста ня выпупіцца падобны чорт?"

"Што ж, я не гневаюся, бо ні адзін народ так ня зьдзекваўся нада мноюй і над маёй сям'ёю, як беларускі... Ні адзін народ так не ўніжаў сваіх паэтаў, сваіх жанчын... Кожны хацеў бы, каб я думала так, як ён, каб гэтак жа прадала сваю душу, сваю беларускасьць і тое найясьнейшае, што я выхавала ў душы са сваяго дзяцінства".

"Споведзь" — гэта крык душы, боль чалавека, які зведаў бязмежную любоў да Айчыны і з-за гэтай любові выцярпеў столькі, што хапіла б на сотні звычайных людзей. Але без гэтага, мусіць, не было б тэй паэткі, якой яна стала. Данута Бічэль-Загнетава лічыць, што Ларыса Геніюш валодала "чарадзейным словам, ад якога цяпло разыходзіцца па чалавечай істоце, і глыба жыцця, што перад гэтым вісела над табой і палохала сваёй магутнай сілай, сваім цяжарам, пераўвасабляецца ў крылле, ты ўзнімаешся да сонца і да людзей — чыстая, нібы сляза".

Мудрасць паэткі — глыбіннанародная, шчодрая. На жаль, людзі пачынаюць разумець мудрасць тых, з кім побач жылі, пасля таго, як іх, мудрых, не стане. І тады сэрцы цягнуцца да таго, што пасля іх засталося, да мясцін, дзе яны нарадзіліся, жылі, тварылі.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**




# ПЛАЧА НАД ДОЛЯЙ ЖАЛЕЙКА...

З Андрэем Вайтовічам, які жыве ў Слоніме, я знаёмы даўно. Часта бываю ў яго гасцінным, утульным і светлым, як і сам гаспадар з гаспадыняю, доме. Мы гутарым пра жыццё, пра родны край і пра знакамітых землякоў. Але больш за ўсё любіць Андрэй Піліпавіч успамінаць пра Ларысу Геніюш, з якою шмат гадоў сябраваў. А нядаўна ён паказаў мне свой сямейны альбом. О, гэта незвычайны альбом! Справа ў тым, што пры сустрэчах з Ларысай Геніюш Андрэй Вайтовіч расказваў ёй пра сваіх бацькоў, сясцёр, братоў. Паэтка ўважліва слухала і затым перапляўляла пачутае ў вершаваныя радкі: некалькі соцень іх ён занатаваў у свой сямейны альбом са здымкамі сваякоў. А, бывала, папросіць паэтку напісаць верш для сына, для суседа, у якога юбілей, — і яна пісала. Вось так і захавалася ў Андрэя Вайтовіча невядомая нікому асабістая літаратурная спадчына Ларысы Геніюш, прысвечаная сваякам Андрэя Піліпавіча. Усе гэтыя вершаваныя радкі спадар Вайтовіч перадаў мне. У іх — любоў да сваіх сяброў, да беларускай зямлі і яе працавітых і мужных людзей, пачуццё нацыянальнай годнасці і гонару.

Што датычыць знаёмства Андрэя Вайтовіча з Ларысай Геніюш, то яно адбылося з дапамогай сяброў па сталінскіх лагерах.

У 1972 годзе Андрэй Вайтовіч наведаў у Вроцлаве свайго сябра па рэпрэсіях Казіміра Гінца, які быў знаёмы з Ларысай Геніюш. Той папрасіў Вайтовіча наведаць паэтку ў Зэльве і перадаць ёй прывітанне, а таксама даў Андрэю хусцінку, якую некалі ў лагерах падаравала яму паэтка. Вярнуўшыся з Вроцлава, Андрэй Вайтовіч паехаў у Зэльву да Ларысы Антонаўны... Так яны пазнаёміліся і да апошніх дзён жыцця паэткі шчыра сябравалі. Гэта Андрэй Піліпавіч дапамог ёй зрабіць помнік на магілу Янкі Геніюша і даставіў яго з Навагрудчыны ў Зэльву. То свежанінкі прывязе, то мёду — ні ў чым і ніколі не адмаўляла сям'я Вайтовічаў мужнай і таленавітай жанчыне з Зэльвы.

Сёмага красавіка 1983 года Ларысы Геніюш не стала. Андрэй Піліпавіч прыехаў са Слоніма праводзіць яе ў апошні шлях. У памяці выразна гучалі радкі з паэмы "З вёскі Залозкі над Нёманам":

**Калі скончыцца дзень і сум душу кране**
**Успамінам трывожным нейкім,**
**Дык, здаецца, чутно, як калісь, як раней,**
**Быццам плача над доляй жалейка...**

Гэту паэму Ларыса Геніюш прысвяціла сястры Андрэя Вайтовіча Барбары і яе мужу Мікалаю. У ёй адлюстраваны лёс звычайнай беларускай сям'і — такіх лёсаў на нашай шматпакутнай зямлі было нямала. Паэма нідзе не друкавалася. Няхай упершыню з ёю пазнаёмяцца чытачы "Голасу Радзімы".

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

Ларыса ГЕНІЮШ

# З ВЁСКІ ЗАЛОЗКІ НАД НЁМАНАМ

**Нёман дастойна краінай плыве,**
**Сябруе з суседнімі вёскамі,**
**Шырокі і сільны ляжыць бы ў траве,**
**Лугамі атулены роснымі.**
**Нёман наш родны мілейшая з рэк,**
**Поящь зямлю блакітныя воды,**
**Ён шмат чаго бачыў за доўгі свой век**
**З мінуласці, з долі народа.**
**Як найвярнейшы зямлі нашай сын,**
**Глыбокі і цёмны на ўзлессі,**
**Шмат ён на хвалях па краі насіў**
**Плытоў нашых, лодак і песняў.**
**Не раз ён сялянаў на веча збіраў,**
**Дзяліў зямлі роднай нягоды,**
**І кроў з нашых ранаў не раз абмываў,**
**Тапіў нашых недругаў ў водах.**
**Яму сінявокаму добра чутно,**
**І плач наш, і спеў наш застольны,**
**І з ім быццам з братам зжыліся даўно**
**Адвечныя нашыя сёлы.**
**Ён мыў нам кашулі, бяліў для нас лён,**
**Спалосквае дзявочы косы,**
**Збіраў нашы слёзы ў суровы прыгон**
**І з вёскі старое Залозкі.**
**Нёмне, Ты ўспомні на краі сяла**
**Сялянскую людную хату.**
**Яна, быццам вулей, абжытай была,**
**Шчаслівай, хаця не багата.**
**Успомні вяселле: Праксэда й Піліп**
**Замуж дачку аддавалі,**
**Сваты як ад Сотнікаў ў хату прыйшлі**
**І дзяўчыну ўсю ноч запівалі.**
**Дзяўчына Барбара была як зара,**
**Прыгожая, спрытная ў працы,**
**Усё ж замуж ісці надыходзіць пара,**
**Ды трэба з бацькамі прашчацца.**
**А малады быў з аднаго сяла,**
**Зямля іх адна гадавала,**
**Маленькая ў Сотнікаў хатка была,**
**Але сын быў на славу удалы.**
**Коля, задорны, прыгожы юнак,**
**Да працы ўсялякае спрытны,**
**Найбольш у сяле весяльчак і спявак.**
**Ганарыўся ім бацька Мікіта.**
**Ён цяпер выпраўляў маладых да вянца,**
**З жонкаю Лідай ім шчасця жадалі.**
**Вясельныя песні гулі без канца,**
**Музыкі ад сэрца ім гралі.**
**І плакала толькі Барбара адна,**
**Як плачуць заўсёды дзяўчаты,**
**Як маці па дочках галосіць здаўна,**
**Калі выпраўляюць іх з хаты.**
**Як будзе ім жыцца далей у сяле,**
**Што іх чакае: бяда ці удача?**
**Ці будзе дастатак і хлеб на стале,**
**Ці не раз можа з гора заплачуць!**
**А музыка грала, а песні плылі,**
**Старыя вясельныя, родныя,**
**Хоць чаркай адною гарэлку пілі**
**І відэльца не мелі ніводнага.**
**Бралі рукамі кавалкі кумпякоў,**
**Каўбасы, што ў місках ляжалі,**
**Сыру і мёду, салёных гуркоў,**
**Пірагоў, караваю хапала.**
**Гулялі вяселле, шумелі, як гай,**
**Гарэлку пілі, танцавалі.**
**Назаўтра дзялілі усім каравай,**
**Дарылі і шчасця жадалі.**
**Куфар пасажны на возе вязлі,**
**Поўны беленых тканых сувояў.**
**А Божы абраз у руках панеслі**
**У хату мужаву за маладою.**
**Няхай у покуці вісіць, зззяе ўвесь век,**
**Крэпіць сэрцы, што шлюбам злучылі,**
**Ад хаты бяду аганяе і грэе,**
**Бо бацькі іх пабласлаславілі.**
**І зноў перазовы, гасціна ў бацькоў,**
**Сумны твар заклапочанай маці,**
**І з мужам супольна дарога дамоў,**
**Ды жыццё ўжо у мужавай хаце.**



Ларыса ГЕНІЮШ з сям'ёй Андрэя ВАЙТОВІЧА ў Зэльве. 1980 г. Фота друкуецца ўпершыню.

**І беглі дзянёчкі, ішлі тыдні, гады,**
**Не шмат хлеба на вузкім загоне,**
**І кропельку шчасця, і крыху бяды,**
**І мазольныя з працы далоні.**
**Сеялі, жалі, касілі ў лугах,**
**Каб было і сабе, і жывёле,**
**Дровы з-за Нёмана вазілі ў санях**
**І не сумавалі ніколі.**
**Калі кусок поля і хата свая,**
**Дык будзе і хлеб, і да хлеба.**
**Калі ў хаце дружная ў згодзе сям'я,**
**Дык большага шчасця не трэба.**

(Заканчэнне будзе).

# БЕЗ ШЧАСЦЯ ЖЫЦЦЯ НЯМА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

добразычліва, расказвае, што з імі лёгка размаўляць, цікава спрачацца, бо ўсе яны таленавітыя. Усміхаецца, успомніўшы, як вучань з суседняга класа, жартуючы, усклікнуў:

— Глядзіце, вунь ідзе негр, які гаворыць па-беларуску!

На што Андрэй, не разгубіўшыся, адказаў:

— Глядзіце, ідзе беларус, які размаўляе па-расейску!

У школе Андрэй, як і большасць яго таварышаў, гаворыць па-руску, а вось дома з маці або ў вёсцы, дзе жыве дзядуля, — толькі па-беларуску. Ды і ў рэдакцыі ў нас, дзе мы з ім сустрэліся, ён гаварыў на беларускай мове.

— Адкуль ты так добра ведаеш матчыну мову?

— Ад маці і ведаю. Яна са мной ад майго нараджэння размаўляла па-беларуску. Маленства маё прайшло ў вёсцы на Лепельшчыне, там жыве мой любімы дзядуля Андрэй, сябры.

Там Андрэй і ў школу пайшоў. Яму пашанцавала на настаўніцу, якая заклала ў свядомасць сваіх вучняў павагу да роднага слова.

І ўсё ж найбольшая заслуга маці, што сын і вершы піша на беларускай мове, бо яна абудзіла ў ім цікавасць да беларускай паэзіі. Сама Ала Андрэеўна выкладае студэнтам беларускую літаратуру.

— Найперш я зацікавіўся прозай Васіля Быкава, — расказвае Андрэй. — Потым пазнаёміўся з паэзіяй. А тады ўжо і сам першы верш напісаў.

Яго вершы друкаваліся ў "Настаўніцкай газеце", у дзіцячай "Зорцы", у часопісе "Ave Maria", выдадзены дабрачыннага фонду "Маці Божая Фацімская".

— Ты, Андрэй, чалавек веруючы? Якога ты веравызнання?

— Чатыры гады назад мы з маці пайшлі ў касцёл і ахрысціліся. Цяпер наведваю школу, дзе вывучаецца Катэхізіс.

У часопісе "Ave Maria" вершы Андрэя зусім не рэлігійнага зместу. У іх агульначалавечыя праблемы. У сваім такім юным узросце хлопчык спрабуе вызначыць для сябе сэнс жыцця, размежаваць дабро і зло.

— У чым ты ўсё ж бачыш сэнс жыцця?

— Зразумела, у веры, — не задумваючыся, адказаў Андрэй. — У звычайнай хрысціянскай веры, дзе абавязковая любоў да Бога і служэнне людзям, дабру, справядлівасці.

**Што чалавек без дарогі да неба!**

**Тое самае, што немаўлятка, для якога не раскрылася ўлонне маці.**

— Што ты, Андрэй, збіраешся рабіць у жыцці?

— Хачу быць мастаком.

Маляваць, як і пісаць вершы, Андрэй Такінданг пачаў рана. Яго малюнкі, бясспрэчна, пазначаны пячаткай незвычайных здольнасцей. Гэта адзначаюць яго настаўнікі ў школе і самая любімая настаўніца — мастачка Раіса Сіплевіч. Але што дзіўна: у яго малюнках побач з беларускімі матывамі праяўляюцца афрыканскія. У вершах такой з'явы няма, а ў малюнках ёсць. І гэтая генетычная памяць, як цяпер модна гаварыць, робіць яго работы адметнымі, ні на чые непадобнымі. У Афрыцы, у Чадзе, жыве бацька, дзед, іншыя сваякі Андрэя. Там хлопчыка лічаць таксама сваім і ганарацца яго поспехамі.

— А што ты робіш з большай ахвотай: пішаш вершы ці малюеш? — спытала я ў Андрэя.

— Малюю. А вершы пішу, калі ёсць пра што пісаць.

Можна толькі меркаваць, кім у будучыні стане Андрэй Такінданг — слынным паэтам ці праслаўленым жывапісцам.

— Дзеткі ўсе таленавітыя, — зазначае Ала Андрэеўна, з абажаннем і пяшчотай пазіраючы на свайго Андрэйку.

Сапраўды, пакуль што цяжка сказаць, які з яго талентаў праявіцца найбольш яскрава. Я ўпэўнена толькі ў адным: не знікне яго талент любіць. Любіць блізкіх яму людзей, беларускую зямлю, на якой нарадзіўся, і тую далёкую, пакуль што невядомую афрыканскую. Любіць матчыну мову, якая стала адзіна роднай і па-сапраўднаму зразумелай. Наша сустрэча з Андрэем і закончылася маім пытаннем аб беларускай мове.

— Якое тваё стаўленне да яе?

— Я стаўлюся да беларускай мовы як да сваёй роднай. Думаю, не, я ўпэўнены, што беларусы абавязкова будуць на ёй размаўляць.

— Ты аптыміст! — толькі і магла адказаць я гэтаму прыгожаму смуглявому хлопчыку з такой чыстай і шчырай душой.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**



**Андрэй ТАКІНДАНГ. Нацюрморт.**

**Андрэй ТАКІНДАНГ**

**Няўжо і праўда ёсць такое**
**Спрадвечнае святло жывое,**
**Якое быццам нечужое,**
**Маё, істотнае, зямное,**
**Што, кажуць, светлаю рукою**
**Вядзе ідучых чарадою.**

**Ці гэта можа толькі кажуць —**
**Ніхто у вочы не адкажа.**
**Мо проста ў месяц красавік**
**Сказаў так нейкі жартаўнік,**
**Што ёсць адно святло жывое.**
**Маё, спрадвечнае, зямное.**

* * *

**Прыступка жыццё ці адрэзак,**
**Які давядзецца пражыць толькі раз!**
**А можа ўсё ж такі дарога да вечнасці!**
**Ці шлях да вечнага забыцця!**
**Дык чаму тады гэты адрэзак існуе,**
**Калі пасля яго нічога не будзе!**
**А можа ўсё ж такі прыступка!**

* * *

**Чым зорцы першай пакланіцца,**
**Чым ёй, як Богу, памаліцца,**
**Падумаць раю перад тым,**
**Ці выбар правільны зрабіў:**
**Мо нізка галаву схіліў**
**Ты перад ідалам чужым!**

* * *

**Калі б я быў ерэтыкам,**
**Я б параўнаў цябе з травою,**
**Адна, пад снежнаю гурбою,**
**Маркотна сніш ты сон вясны**
**І скуру светлую сасны,**
**І ночы цёмнай валасы.**
**Калі б я быў ерэтыкам.**

* * *

**Люблю такую цішыню,**
**Калі чуваць, як сэрца б'ецца,**
**Як рэха ў ночы аддаецца,**
**Як дождж у вокны сумна б'ецца,**
**Гамоняць травы між сабой**
**І вецер шэпча, уздыхае, —**
**Такое толькі ў ноч бывае,**
**Калі пачуеш цішыню.**

* * *

**— Куды бяжыш!**
**— Я! На вайну.**
**Чаму бягу!**
**Каб не спазніцца.**
**— А не баішся там застацца!**
**А не баішся не спазніцца!**
**Каб там застацца — я і рады:**
**Смачней за мёд Абрама піва.**
**Вось толькі страшна зверам стацца,**
**Вось толькі страшна ў горла ўпіцца.**

*ВЫСТАВЫ*



# ФІЛАТЭЛІЯ — ЧАСТКА КУЛЬТУРЫ

Філатэлістычная выстава для любога філатэліста заўсёды свята. Гэта дэманстрацыя сабраных карпатлівай працай унікальных калекцый, гэта гарачыя спрэчкі каля экспанатаў аб вартасцях таго ці іншага паштовага рарытэта. Менавіта такіх святаў былі пазбаўлены філатэлісты нашай рэспублікі апошнія пяць гадоў. У гэты час Беларусь і саюз філатэлістаў перажывалі пэўныя цяжкасці ў сваім развіцці, у сваёй самастойнасці і станаўленні. Скарацілася колькасць членаў БСФ, у школах не аднавілі сваю работу гурткі юных філатэлістаў. З-за высокай арэнднай платы не было магчымасці арганізоўваць філатэлістычныя выставы. Здавалася, што і сам саюз спыніць сваё існаванне.

Філатэлія — частка нацыянальнай культуры, і беларускія філатэлісты даказалі гэта на выставе "Мінск-98", якая прайшла ў залах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Падзея адбылася дзякуючы сумесным намаганням Беларускага саюза філатэлістаў, рэспубліканскага аб'яднання "Белпошта" і Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Экспазіцыя атрымалася багатай і цікавай.

Адзначу, што ўпершыню ў гісторыі беларускіх філатэлістычных выстаў у паказе прымала ўдзел музейная калекцыя марак, якая расказвала аб беларускіх нацыянальных касцюмах, мастацкім саломкаплягенні, ганчарнай справе. Гэтую калекцыю музей узмацніў стардаўнімі паштоўкамі з адлюстраваннем "беларускіх тыпаў" XIX стагоддзя. Музей паказаў таксама частку сваёй цудоўнай (іншага слова і не падбярэш) калекцыі старых паштовак з відамі Мінска, Віцебска, Слуцка, Слоніма, Барысава... Ля стэнда з гэтымі паштоўкамі падоўгу затрымліваліся наведвальнікі.

Паказала сваю экспазіцыю і "Белпошта". Першыя маркі Рэспублікі Беларусь, першыя паштовыя карткі, канверты, штэмпелі спецгашэнняў. Нават сёння гэта ўжо гісторыя беларускай пошты і філатэліі. Тут жа побач навінкі, ужо выпушчаныя і якія толькі распрацоўваюцца (серыя марак, прысвечаная беларускім аўтамабілям, юбілею горада Нясвіжа).

Але самае цікавае ў гэтай экспазіцыі было ў падборцы выстаўленых філатэлістычных калекцый. Да кожнай з іх пасуюць словы — "адзіная", "лепшая".

Вось калекцыя мінчаніна А. Кірушкіна, адзіная ў былым СССР: усё аб славутай, першай у свеце брытанскай паштовай марцы "Чорны пені" выпуску 1840 года. Калекцыя неадназова дэманстравалася на філатэлістычных выставах у многіх краінах свету.

Такія ж словы можна сказаць аб калекцыі мінскага філатэліста Д. Нарышкіна "Ваенная пошта 1941—1945 гадоў". Гэта калекцыя франтавых трохвугольнікаў, абпаленых полымем вайны.

В. Качан, мінскі філатэліст, на многіх міжнародных выставах заваяваў найвышэйшыя ўзнагароды (апошні медаль з Індыі), дэманструючы калекцыю аб мастыльках.

Фрагменты сваёй калекцыі "Маркі РСФСР" паказаў старшыня Саюза філатэлістаў Ю. Кукурузін. І аб гэтай калекцыі варта сказаць — адзіная ў Беларусі, адна з лепшых у былым СССР, неадназова ўзнагароджаная.

Трэба адзначыць калекцыю беларускага філатэліста Л. Коласава




"Старыя пісьмы Беларусі". У ёй паказаны пісьмы XVII—XIX стагоддзяў, першыя паштовыя штэмпелі Мінска, Гродна, Слуцка, Бабруйска, рэдкія штэмпелі паштовых станцый і вагонаў. Калекцыя расказвае аб гісторыі беларускай пошты. "Старыя пісьмы Беларусі" на міжнародных філатэлістычных выставах атрымалі больш за 20 вышэйшых узнагарод і прызоў. (Дарэчы, на гэтай выставе ўпершыню былі паказаны медалі і дыпломы, "заваяваныя" паказанымі калекцыямі на выставах у розных краінах). Гэты ж філатэліст паказаў на выставе "Мінск-98" фрагменты сваёй калекцыі "Старонкі гісторыі Беларусі", у якой моваю паштовых выпускаў расказана аб гісторыі рэспублікі са старажытных часоў да нашых дзён.

Беларускія філатэлісты выставай "Мінск-98" заявілі аб сваім далейшым існаванні. Яны плануюць правесці ў лістападзе гэтага года рэспубліканскую філатэлістычную выставу, запрасіць на яе сваіх калег з-за рубяжа.

**Л. ЛЕАНІДАЎ.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзімы»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і адрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 551.
Падпісана да друку 6.04.1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.